
Развітанне з Архімандрытам → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Літаратурны Гарадок → 8


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 48 (3264) Год LXIII Беласток, 2 снежня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Новыя ўлады Гайнаўскага павета

У час апошніх самаўрадавых выбараў у Раду Гайнаўскага павета з 17 чалавек найбольш радных увёў Выбарчы камітэт выбаршчыкаў «Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы» — шэсць асоб, які былі створаны на падставе заснаванага ў 2014 годзе Выбарчага камітэта «Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля». Пяць асоб стала павятовымі раднымі ад Выбарчага камітэта Польскай сялянскай партыі (PSL/ПСЛ). Гэтыя абодва камітэты паразумеліся ў справе выбару павятовых улад. Падчас першай сесіі Рады Гайнаўскага павета, якая адбылася 20 лістапада, старастам Гайнаўскага павета на пяцігадовы тэрмін быў выбраны радны ад ВКВ «Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы» Андрэй Скепка, які з 2010 года быў віцэ-старастам павета, а з 2014 года — віцэ-бургамістрам Гайнаўкі. Віцэ-старастам была абрана прадстаўніца Выбарчага камітэта ПСЛ Іаанна Койла, якая ў папярэднім скліканні была павятовай раднай. Старшынёй Рады Гайнаўскага павета быў выбраны радны ВК «Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы» Яўген Сачко, шматгадовы дырэктар Гайнаўскага белліцэя, а зараз яго настаўнік. Віцэ-старшынямі Рады павета былі абраны радны ад Выбарчага камітэта ПСЛ Пётр Філімонік і радны ад ВКВ «Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы» Ян Корч. У склад управы Гайнаўскага павета апрача старасты і яго намесніцы былі выбраны яшчэ павятовая радная ад ВКВ «Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы» Вольга Рыгаровіч і двух радных ад Выбарчага камітэта ПСЛ — Яраслаў Герасімюк і Раман Астапчук.

Першая сесія Рады Гайнаўскага павета пачалася з прысягі новаабраных павятовых радных і доўжылася звыш чатырох гадзін з-за ўсіх працэдур, неабходных падчас тайных галасаванняў. Згодна з новымі патрабаваннямі галасаванні, якія яўнай пастановай зацвярджалі тайныя галасаванні, мусілі адбывацца пайменна і кожны радны пасля тайнага галасавання мусіў яшчэ публічна вызначыцца, ці ёсць за пастановай, якая зацвярджае выбар старасты, ці супраць такой пастановы, ці стрымліваецца ад голасу. Зараз усе самаўрадавыя сесіі запісваюцца на камеру і транслююцца ў інтэрнэце, што дае грамадзянам магчымасць сачыць за іх ходам ужо падчас пасяджэння. Адбылося ажно пяць асобных тайных галасаванняў: на старшыню Рады Гайнаўскага павета, намеснікаў старшыні, старасту, намесніка старасты і трох членаў управы павета (на час галасаванняў і падліку галасоў трансляцыя спынялася). Перад тайнымі галасаваннямі на згаданыя пасады прапанаваліся толькі кандыдаты ад ВКВ «Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы» і Выбарчага камітэта ПСЛ, якія раней паразумеліся ў справе супольных кандыдатаў. Амаль за ўсіх іх галасавала 15 радных, а двух радных найчасцей было супраць такіх прапаноў або стрымліваліся ад голасу.



Андрэй Скепка



Іаанна Койла

У Раду Гайнаўскага павета па двух радных былі выбраны ад Выбарчага камітэта выбаршчыкаў «Наш павет Гайнаўка» (між іншым былы староста Міраслаў Раманюк), Выбарчага камітэта «Права і справядлівасць» (між іншым старшыня Рады Гайнаўскага павета папярэдняга склікання Лех Міхаляк) і Кааліцыйнага Выбарчага камітэта «Грамадзянская кааліцыя», якую састаўляюць у галоўным партыі Грамадзянская платформа і Навачэсная. Ніхто з гэтых шасці радных не прапанаваў ад сваіх выбарчых камітэтаў контркандыдатаў на пасаду старасты, віцэ-старасты, старшыні рады, яго намесніка, ці члена ўправы павета. Падчас сесіі радны Багуслаў Лабэндзкі ад Выбарчага камітэта «Права і справядлівасць» папрасіў яшчэ тады кандыдата на старасту павета Андрэя Скепку распавесці, як ён бачыць будучыню Гайнаўскага павета. Раней пра кандыдата на старасту Гайнаўскага павета Андрэя Скепку падрабязна распавяла павятовая радная ад ВКВ «Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы» Ала Грыц, а сам кандыдат расказаў пра свой прафесійны шлях, зацікаўленні і планы працы на пасадзе старасты, калі будзе выбраны. У канцы сесіі старшыня Рады Яўген Сачко даў голас былому старасту Гайнаўскага павета, а цяпер павятоваму раднаму Міраславу Раманюку, які падзякаваў за супрацу працаўнікам Гайнаўскага стараства. Міраслаў Раманюк сказаў, што новаабраным уладам Гайнаўскага павета папярэднія ўлады пакідаюць для рэалізацыі пачатыя інвестыцыі, між іншым, устаноўку фотавальтаічных панэляў на павятовых будынках і камасацыю палёў.

### Старастам Гайнаўскага павета стаў Андрэй Скепка

— Буду рабіць стаўку на супрацу з гмінамі нашага павета, з суседнімі паветамі і ваяводскімі ўладамі. Маючы гэта на ўвазе, будзем маглі рамантаваць павятовыя дарогі і хадайнічаць за рамонт ваяводскіх дарог у межах нашага павета. Буду сачыць за рамонтам ваяводскай дарогі з Навасадаў у Заблудаў, намагацца, каб пачалася мадэрнізацыя дарогі са Звадзецкага ў Юшкаў Груд, якая стала ўжо небяспечнай для транспарту, каб прокласці веласіпедную сцежку побач дарогі з Гайнаўкі ў Белавежу. У супрацы з суседнімі паветамі буду намагацца давесці да мадэрнізацыі дарогі з Замбрава, праз Бельск-Падляшскі і Гайнаўку, у Белавежу, бо гэта важная для нашага рэгіёна ваяводская дарога. У супрацы з бургамістрамі і войтамі маю намер стварыць рэйтынг перабудовы дарог у нашым павеце і пасля працаваць на яго аснове. Маю намер пры дапамозе спецыялістаў разведаць магчымасці рамонту чыгуначнага пуці з Гайнаўкі ў Белавежу. Хачу паставіць на супрацу з надлясніцтвамі і Дзяржаўнымі лясамі ў цэлым. З самага пачатку працы на пасадзе старасты буду ў супрацы з надлясніцтвамі Белавежскай пушчы, Белавежскім нацыянальным паркам, гмінными ўладамі і Управай ваяводскіх дарог хадайнічаць за дазвол ліквідаваць небяспеку ад пахіленых дрэў і сухастояў пры дарогах у Белавежскай пушчы. Зараз такія дрэвы падаюць, між іншым, на дарогу з Гайнаўкі ў Белавежу і ствараюць небяспеку для дарожнага руху, — сказаў Андрэй Скепка, адказваючы на пытанні перад выбарам на старасту. — Маю намер рабіць стаўку на інвестыцыі ў Самастойным публічным Комплексе аховы здароўя ў Гайнаўцы, буду намагацца здабываць сродкі на камасацыю палёў у паасобных гмінах павета. Калі я быў віцэ-старастам, пачалі мы камасацыю ад вёскі Альхоўка і цяпер буду хадайнічаць, каб як найхутчэй зрабіць камасацыю ў Дубічах-Царкоўных і Істоку. На такія камасацыі зямель выкарыстоўваюцца вонкавыя сродкі і буду намагацца, каб атрымаць іх як найбольш.

Падчас размовы з новаабраным старастам Андрэем Скепкам папрасіў я ацаніць ход першай сесіі Рады Гайнаўскага павета.

— Наш Камітэт «Самаўрадавае паразуменне рэгіёна Белавежскай пушчы» заключыў пагадненне з Выбарчым камітэтам ПСЛ і згодна яму былі выбраны ўлады павета. Мы вялі таксама размовы з Выбарчым камітэтам «Грамадзянская кааліцыя», але безвынікова. Я рады, што за нашымі кандыдатамі галасавалі радныя гэтага камітэта і радныя Камітэта «Наш павет Гайнаўка». Я адкрыты на супрацу з усімі павятовымі раднымі дзеля развіцця павета і вырашэння розных спраў, — заявіў староста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка.

Аб супрацоўніцтве з суседнімі раёнамі Рэспублікі Беларусь староста сказаў:

— З прыгранічнымі рэгіёнамі ў Рэспубліцы Беларусь наш павет, горад Гайнаўка і гміны нашага павета супрацоўнічалі, супрацоўнічаем і будзем гэта рабіць надалей. Робім стаўку на супрацу ў галіне культуры, спорту і турызму. У час мерапрыемстваў у Гайнаўскім павеце выступаюць беларускія калектывы, а нашы калектывы выязджаюць на гастролі ў Беларусь. Наша старства можа займацца каардынацыяй такога абмену з Беларуссю, калі будзе такая воля асяродкаў культуры. Ужо хутка нашы футбольныя і валейбольныя каманды паедуць на спаборніцтвы

працяг ☞ 11





# Вочы, рукі і языкі

Пачну з цытаты: „Міністэрства замежных спраў Беларусі не валодае інфармацыяй пра здзяйсненне ўладамі рэпрэсіўных дзеянняў у дачыненні да прадстаўнікоў апазіцыі" — так, не міргнуўшы вокам, заявіў прэс-сакратар МЗС Анатоль Глаз 23 лістапада на міжнароднай канферэнцыі „Мінскі форум". Маўляў, гэтыя пытанні да праваахоўных органаў, а я не ведаю, ці ёсць нейкія рэпрэсіі ўвогуле. Гэтыя Глазы ўжо навучыліся ілгаць прафесійна і не адводзіць вачэй. Людзі на пасадах менш значных, асабліва ў рэгіёнах, яшчэ сарамлівa апускаюць вочы, калі ўдзельнічаюць у незаконным пераследзе актыўных суграмадзян. Аднак, вочы адводзяць, а рукі і языкі ганебную справу паслухмяна выконваюць. Сочаць за грамадскімі актывістамі, робяць правакацыі, беспадстаўна затрымліваюць на роўным месцы, складаюць фальшывыя пратаколы, ілжэсведчаць у судзе, абвяшчаюць карныя пастановы. Тысячы чыноўнікаў, тысячы сілавікоў, соткі судовых і пракурорскіх работнікаў уцягнутыя ў сістэмны пераслед іншадумцаў, тых, хто хоць на крок пасмеў адхіліцца ад генеральнай, „адзіна правільнай" лініі дзяржаўнай ідэалогіі. Гэтая ідэалогія спрэс замешана на хлусні, падмане і фальсіфікацыях. І адзіныя спосабы яе ўкаранення — гэта прымус, гвалт і рэпрэсіі. Формула простая — міліцыя і іншыя сілавікі затрымліваюць ці фіксуюць людзей, пасля складаюць пратаколы пра нібыта адміністрацыйныя правапарушэнні. Ну а далей абавязкова карныя суды.

Давялося апошнімі тыднямі пабываць у такіх судах Беларусі на розных адміністрацыйных працэсах. Тым, хто не быў на гэтых „разглядах" напэўна цяжка паверыць у той фарс, абсурд, які адбываецца на ганебных для сістэмы юстыцыі судзілішчах, дзе тым, што выносяць прысуды больш да твару была б не судзейская мантыя, а нейкая маска. Хоць яны ўжо навучыліся не чырванець, часам толькі вочы апускаюць. У якую толькі незгаральную шафу хаваюць яны сваё сумленне?!

Вось у Гродне ўжо трох чалавек засудзілі да вялізных штрафаў за перапост інфармацыйных матэрыялаў у адной з сацыяльных сетак. Адзін — вядомы антыфашыст, якога аштрафавалі нібыта за прапаганду свастыкі. Тое, што на той карыкатуры свастыка ляціць у кошык, а сама карыкатура мае выразна антыфашысцкі характар пад увагу не бярэцца. Некаторыя пасты ў сацсетках былі размешчаны задоўга да таго, як рэсурс быў прызнаны экстрэмісцкім, але ж якая розніца — маўляў, павінны былі прадбачыць, што нельга гэтай інфармацыі размяшчаць.

А вось у Свіслачы судзяць нашага сябра Віктара Сазонава. Фактычна за тое, што меў нахабства прыехаць у гэты горад і фатаграфаваць удзельнікаў Дня памяці нацыянальных герояў. У рапартах яго прозвішча няма, усе сведчанні міліцыянтаў на яго карысць, прагляд доўгага відэа пацвярджае, што Віктар Сазонаў нічога не парушаў. А пастанова суддзі Аляксандра Шыліна ўсё роўна карная — 15 базавых штрафу — 175 долараў.

Шчыра прызнаюся, што да такога нельга прызвычаіцца, але гэта можна вытрываць і нават асэнсаваць па-філасофску. Куды цяжэй вытрываць, калі не так рэдка чуеш ад суседзяў з Літвы, Украіны ці Падляшша захапляльныя воклічы наконт таго, які ў сённяшняй Беларусі парадак, лад і законнасць. Звычайна, гэтыя людзі альбо зусім не былі ў Беларусі, альбо былі дзеньдва ў цэнтры гарадоў як турысты. Але ляпаюць языкамі пра тое, чаго і блізка не ведаюць. Заўсёды гатовы запрасіць такіх людзей хоць на адзін судовы працэс, каб на свае вочы пабачылі і на свае вушы паслухалі. Але ж не прыедуць...

Адным з узораў для кіраўніцтва сённяшняй Беларусі з'яўляецца Кітай з яго антыдэмакратычнай, зняважальнай па ўсіх кірунках людзей сістэмай. Там ужо заканадаўча ўводзяць адказнасць за „сацыяльныя паводзіны", афіцыйна зараз ствараюцца спісы „заслужаных" людзей і „чорныя спісы" іншадумцаў, тых, хто не згодзен з існым рэжымам. Уводзіцца нават адмысловая сістэма налічэння балаў, паводле якой будуць караць ці ўзнагароджваць (цікава, ці ёсць шанц не патрапіць нікуды?). У Беларусі дэ-факта такія спісы даўно складзены і практычна выкарыстоўваюцца. Патрыётаў Беларусі цэлы час караюць, а стукачоў і прапагандыстаў рэжыму ўзнагароджваюць.

Але колькі б воўк ні валок, павалакуць і ваўка.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Без душы?

Нечакана памёр архімандрыт Гаўрыіл, мой, так сказаць, сусед з-за ракі. Хацелася б перайсці кладачкай да скіта, умяшацца ў натоўп жалобнікаў, запаліць свечачку, паплакаць. А тут з'яўляюцца госці з далёкага Кракава, спяшаюцца ехаць далей, але маюць да мяне тэрміновую справу. І так зышлося... да наступнага дня. Трэба мне быць добрым гаспадаром да канца. І хацелася б быць і там, і там. І яшчэ ў іншым месцы. У той жа самы час. Дзесьці там у Польшчы, якраз у дзень смерці айца Гаўрыіла, селянін выараў з зямлі высокаэнергетычны кабель. Цуд, што не забіў яго электрашок. Аператар сеткі электраэнергіі мае намер спагнаць з ахвяры нейкія выдаткі на рамонт. Кабель павінен быць размешчаны як мінімум 80 сантыметраў пад зямлёй. Селянін праводзіў плыткае перадзімовае ўзворванне. Дык хто ж вінаваты? Для яго гэта пытанне асабістай шкоды. Для другога боку — прэстыжу. Хацелася б навочна праверыць, ці ў гэтай спрэчцы грамадзяніна з карпарацыяй звязанай з цяперашняй уладай перамогуць закон і справядлівасць.

У той жа час, калі ў скіце пасля заўпакойнай літургіі адпявалі архімандрыта, расійскія ваенныя караблі адкрылі агонь па ўкраінскіх караблях на Чорным моры. Гэта вам не пікнік! І адразу ж там хацелася б пратаптаць журналісцкія сляды. Ці Еўропа, а нават увесь свет сталі на мяжы вайны? Адкрыты канфлікт, па меншай меры на дадзены момант, не па думцы ані Пуціну, ані эканамічна няпоўнаўладнай Украіне — гэтак перакананы эксперты. Аднак той другі бок ужо даўно раздзірае па частках расійскія інтрыгі і яго палітычныя ўзурпацыі. Да гэтага часу вайна ні для адной з гэтых краін не з'яўляецца выгаднай. Але для Расіі таксама нявыгадны мір.

Так, хацелася б заглянуць усюды, хаця б на міг. Гэта немагчыма. Хоць памару сабе, што можна было б тэлепартавацца ... Тэлепартацыя, маланкавае перамяшчэнне чалавека або аб'екта з аднаго месца ў іншае, гэта не вынаходства сучаснай літаратурнай навуковай фантастыкі. Чалавеку, стомленаму вандраваннем, не раз прымройвалася ў галаве, каб умомант трапіць да месца прызначэння. Тэлепартацыя, хоць тэарэтычна магчымая, у сучаснай тэхналагічнай цывілізацыі недасяжная. Пра нешта падобнае тэлепартацыі згадвае нават Стары Запавет. І ў кнізе Дзеяў Святых Апосталаў Новага Запавету мы чытаем пра цудоўнае захапленне Піліпа Святым Духамі неадкладнае перанясенне яго з Газы ў Ашдод, «дзе [працягваў] прапаведаванне Евангелля ад горада да горада, пакуль не прыйшоў у Кесарыю».

Лепш задакументаваны выпадак меркаванай тэлепартацыі адбыўся 24 кастрычніка 1593 г. Апісалі яго праз сто гадоў, скрупулёзна і ў адпаведнасці з прынцыпамі шматбаковай праверкі. Ды давайце пакінем скептыкаў самім сабе. Нам трэба трохі аптымізму. Вось аднойчы мужчына па імені Джыл Перэс, ахоўнік палаца губернатара Манілы на Філіпінах растварыўся ў паветры, і ў той жа момант матэрыялізаваўся на Пласа Маёр у Мехіка. Абвінавачвалі яго ў змове з сатаной, адразу арыштавалі і паставілі перад судом мексіканскай інквізіцыі. Перэс сказаў суду, адкуль явіўся, але не быў у стане растлумачыць, як ён апынуўся ў такі кароткі прамежак часу ў Мексіцы, каля 13 400 кіламетраў ад Філіпін за час «меншы чым закукарэкаў певень». Я не ведаю, што здарылася потым з Джылем Перэсам. Віну за незавершаны анекдот абцяжарваю прызнаны сусветны аўтарытэт у галіне квантавай фізікі, прафесара Мічыо Каку, аўтара кнігі «Фізіка рэчаў немагчымых». Прафесар, размяшчаючы свае навуковыя інтарэсы ў шырокім культурным кантэксце і гуманітарных навуках у цэлым, змаўчаў пра гэта, накіроўваючы сваю ўвагу на тонкую багаслоўскую праблему, звязаную з тэлепартацыяй. Калі тэлепартацыя макраскапічных аб'ектаў, у тым ліку чалавечага цела, была б магчымай, трэба было б спытаць пра душу. Ці тэлепартацыйнае перамяшчэнне матэрыі, якой з'яўляецца чалавечае цела або шакаладка, таксама ставіцца і да сферы псіхічнай, духоўнай? Вядома, шакаладка не мае душы, і ёй усё роўна, як яна рухаецца ў прасторы. Для чалавечага цела, якое складаецца па сутнасці з адных і тых жа атамаў, як шакаладка, таксама. Але што было б, калі іх атамы былі б тэлепартаваныя разам, заблыталіся «па шляху»? І шакаладку сталі б турбаваць пытанні аб існаванні або неіснаванні душы? А як прыняць удзел у жалобнай імшы — без душы?

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Вечная памяць Архімандрыту!

Чорны лістапад прыносіць чарговыя благія навіны. Вечарам 22 лістапада па ўсёй Беласточчыне і Польшчы маланкава праляцела сумная навіна пра заўчасную смерць на пяцідзесяці шостым годзе жыцця айца архімандрыта Гаўрыіла, заснавальніка скіта святых Антонія і Феадосія Пячэрскіх ва ўрочышчы Кудак побач вёскі Адрынкі. Будучы архімандрыт, у свецкім жыцці Юры Гіба, нарадзіўся 24 ліпеня 1962 года ў Саколцы, а яго роднай вёскай з'яўляецца Вярхлессе Шудзялаўскай гміны. Беларуская мова вёскі была яму натуральнай і незабыўнай на ўсё жыццё. Таму пакойны не меў аніякіх клопатаў са сваёй беларускай нацыянальнасцю, а наадварот, публічна і адкрыта ганарыўся ёю і заклікаў вернікаў не адракацца ад сваёй беларушчыны. Памятаю як некалькі гадоў таму ў час навагодняга канцэрта пажаданняў пазваніў ён на Радыё Рацыя і асабіста павіншаваў усіх слухачоў на сваёй роднай мове. Ён проста любіў людзей, радаваўся і смуткаваў разам з імі. Штогод у час журналісцкіх Сустрэч «Зоркі» Ганна Кандрацюк абавязкова арганізавала маладым людзям экскурсію ў скіт айца Гаўрыіла, каб паказаць ім месца і асобу вельмі важную ў духоўным і арганізацыйным жыцці Праваслаўнай царквы не толькі ў Польшчы. Ведаю таксама колькі маіх сяброў у размовах і малітвах у ягоным скіце адшукала супакой, суцішэнне і вяртанне да хрысціянскіх каштоўнасцей. Многія знайшлі паратунак ад хвароб цела і душы ў ягоных лекавых зёлках. Фільм Юрыя Каліны «Архімандрыт» ад 2012 года паказвае нам штодзённую незвычайнасць гэтага чалавека.

Зёлкамі будучы манах захапляўся ўжо з самога дзяцінства. У Вярхлессі ягонай настаўніцай-майстрыхай у гэтай галіне была Вольга Кішук. Вучыла яго як распазнаваць зёлкі, калі іх збіраць. Тут важная не толькі пара года, але і пара дня. Потым трэба было навучыцца іх адпаведна сушыць і даведацца, якія хваробы лечаць. У лячэнні зёлкамі вельмі важным з'яўляецца ўмелы падбор прапорцый і спосаб прымянення. Усё жыццё прысвяціў ён гэтаму захапленню. Многа чытаў, размаўляў з лекарамі-фітатэрапеўтамі. Калі быў прызваны ў армію, таксама і там займаўся травалячэннем. Цягам гадоў стаў адным з вядомых у Польшчы і свеце манахаў, займаючыхся фітатэрапіяй. За ягонай дапамогай прыязджалі людзі не толькі з усёй Польшчы, але і з-за мяжы. Гэтай справы не пакінуў, калі паступіў у Супрасльскі манастыр і служыў у ім першапачаткова як манах, а потым як архімандрыт. Людзі з Супраслі, Беластока, Сакольшчыны нават і па той прычыне вельмі шкадавалі ягонага адыходу з Супрасльскага манастыра. Калі вырашыў перасяліцца ў скіт, надалей кожную сераду прымаў людзей у Асяродку праваслаўнай культуры ў вёсцы Крывец, а потым у самім Кудаку.

Аднак не толькі пах зёлак стаў яму жыццёвым спадарожнікам. Значна важнейшым быў выбар сваёй духоўнай і жыццёвай манаскай дарогі. Пах ладану і малітоўны манастырскі парадак жыцця сталі яму лёсавызначальнымі. Ад пачатку сваёй манаскай дарогі свой лёс звязаў з Супрасльскім манастыром. Там пачаў сваё паслушанне, якое завяршыў 6 красавіка 1986 года прыняццем манаскай малой схімы, дзе атрымаў сваё новае імя Гаўрыіл. Ужо 30 сакавіка 1999 года быў пашыханы да звання архімандрыта. З 1 мая 2000 года да канца сакавіка 2008 года кіраваў Супрасльскім Дабравешчанскім мужчынскім манастыром і адначасна быў настаяцелем мясцовага прыхода. Датай, якая пачынае вызначаць яму новае месца, было рашэнне Сабора епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ад 1 красавіка 2008 года, якое прызначыла яго прыняць епіскапскую хіратонію і стаць вікарным Пярэмышльска-Навасанчаўскай епархіі са званнем епіскапа горліцкага. Архімандрыт Гаўрыіл адмовіўся ад гэтага сану, будучага фактычна ссылкай з яго любімай Беласточчыны. Паслядоўнасцю такога супраціву было рашэнне праваслаўных іерархаў пакінуць яму званне архімандрыта, але без права насіць мітру ў час царкоўных богаслужэнняў. Пасля такіх гісторый архімандрыт Гаўрыіл з 16 студзеня 2009 года, напярэдадні Хрышчэння Гасподняга, пачынае жыццё манаха-пустэльніка ў скіце ў Кудаку за Адрынкамі. Дзякуючы Божай волі і арганізацыйным здольнасцям на працягу няпоўных дзесяці гадоў збудаваў тое, што некаторыя будуюць стагоддзямі. Відаць, не хапае такіх рук у нябеснай прасторы, калі Усявышні паклікаў яго да сябе.

Яўген ВАПА

# Страцілі нашага праведніка



— Я нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і, але пазнаў праваслаўе праз айца Гаўрыіла. Каб не ён, я быў бы як той чарвяк на зямлі, — сказаў у час пахавання адзін з вернікаў. — Можна сказаць, што дзякуючы яму я стаў праваслаўным чалавекам.

Сотні вернікаў Праваслаўнай царквы і многа іншых людзей прыбылі 25 лістапада ў скіт святых Антонія і Феадосія Пячэрскіх у Адрынках, каб развітацца з заснавальнікам і гаспадаром скіта архімандрытам Гаўрыілам. Айцец Гаўрыіл кіраваў адзінай праваслаўнай пустэльняй у пасляваеннай Польшчы ў Адрынках на Нарве. Комплекс размешчаны на цяжкадаступным, балоцістым урочышчы Кудак. Нягледзячы на гэта, месца прыцягвала паломнікаў з усяго свету. І не толькі праваслаўных, але таксама католікаў, і ўсіх, якія шукалі цішыні і адпачынку, а нярэдка апошняга паратунку ў цяжкіх хвілінах.

— Ён быў не толькі духоўным пастырам, але таксама сябрам, які ўсім дапамагаў, — сказаў праф. Антон Мірановіч. — Безумоўна, у жыцці кожнага з нас ёсць такія дні, калі патрабуем духоўнай дапамогі. На айца Гаўрыіла заўсёды можна было разлічваць.

Жалобнае набажэнства служыла трох праваслаўных епіскапаў: бельскі архіепіскап Рыгор, сямятыцкі епіскап Варсонофій і супрасльскі епіскап Андрэй. Менавіта пачаткі духоўнай дарогі айца Гаўрыіла былі звязаны з Манастыром Дабравешчання Божай Маці ў Супраслі.

— Айцец Гаўрыіл быў чалавекам добразычлівым, адкрытым і прыязным людзям. Да кожнага, незалежна ад таго, у які хадзіў храм, заўсёды звяртаўся «сястра» і «браце», — адзначыў у час жалобнай цырымоніі бургамістр Супрасля Радаслаў Дабравольскі. — Я прыехаў, каб аддаць яму гонар як хрысціянін. Я ведаў айца Гаўрыіла шмат гадоў. Ён пачаў рамантаваць Супрасльскі манастыр. Ведаю, што людзі з усёй Польшчы прыязджалі да яго, шукаючы тут апошняга паратунку. Ведаю, што ён шмат каму дапамог і многа людзей было яму ўдзячнымі. Памагаў усім — праваслаўным, католікам, усім, хто да яго звярнуўся. Вечная яму памяць!

Айцец Гаўрыіл любіў праводзіць час з маладымі людзьмі.

— Часта запрашаў нас у свой пакойчык пасля літургіі на такую вячэру. Памятаю як я прыязджаў сюды, — успамінаў прыслужнік Грыша Казлоўскі. — Айцец, калі нас убачыў, ужо здалёк крычаў: «Радасці мая!». Запаматаліся мне многія гісторыі, якія расказваў нам пасля літургіі. Шкада... у памяці застанецца. Вечная яму памяць!

Айцец Гаўрыіл таксама праславіўся лячэннем зёлкамі, якія дапамагалі паломнікам на дзясяткі захворванняў. Яго зёлкавыя мяшанкі, вядомыя як «зёлкі айца Гаўрыіла», былі так папулярнымі, што зёлкі рыхтаваныя айцамі баніфратамі. Аднак большасць прыязджала па духовую падтрымку.

— Былі мы звязаны з айцом. Запамятайся як чалавек, які любіць другога чалавека, — сказала прысутная на ўрачыстасцях Паўліна. — Гэта вялікая страта. Будзе ў нашых малітвах. Чалавек вяртаўся ад айца Гаўрыіла мацнейшы, радасны. Чалавек пры ім адкрываўся, ставіўся так адкрыта, без непатрэбнай боязі. Дай Божа, каб Праваслаўная царква мела больш такіх айцоў.

У 2008 годзе Святы сабор епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай







Развітальнае слова праф. Антона Міранавіча

## Асірацелы скіт

*Памяці Архімандрыта Гаўрыіла*

Святой памяці Гаўрыіл,
Дарагі Архімандрыт,
Аддаў людзям так многа сіл,
Асіраціў Ты родны скіт.

Жыццё з Богам Ты пражыў
І працаваў натужна так,
Каб скіт адзіны рос на здзіў
У вёсцы Адрынкі – Кудак.

І Цябе назначыў Бог,
Гаўрыіл Архімандрыт,
Каб у далейшым тут сцярог
Услаўлены Табою скіт.

**Віктар Швед**

Беласток, 25 лістапада 2018 года.

Царквы прапанаваў яму рукапалажэнне ў епіскапскі сан і епархію Пярэмышль — Новы Сонч (цяпер Пярэмышль — Горліцы). Манах, аднак, адмовіўся, кажучы, што ёсць шмат іншых годных кандыдатаў на гэтую кафедру. Ён хацеў застацца звычайным манахам. Застацца на Падляшшы.

— Для нас айцец Гаўрыіл гэта сімвал беларускасці, праваслаўя. Ён ніколі не саромеўся, што ён беларус, — сказаў пасля жалобных цырымоній праф. Антон Міраковіч. — Ён заўсёды аб гэтым гаварыў. Ён перажываў за нашу мову, культуру, таму заўсёды падкрэсліваў, што мы, праваслаўныя Падляшша, заўсёды павінны трымацца сваёй мовы, каранёў, культуры. Яго паслуга ў Супраслі, ці тут сведчыла аб яго прывязанасці да Падляшша. Ён вельмі любіў паездкі ў Беларусь — там адчуваў сябе як дома. І вельмі цёпла прыняў беларусаў, якія прыехалі да яго ў скіт на паломніцтва. Айцец Гаўрыіл быў нашым праведнікам. Зараз мы патрацілі не толькі выдатнага святара, дзеяча беларускай культуры, але таксама добрага прыяцеля.

Архімандрыт Гаўрыіл сышоў з жыцця ў чацвер 22 лістапада ва ўзросце 56 гадоў. Пахавалі яго, так як хацеў, у скіце, дзе арганізаваў манаскае жыццё з 2009 года. У час жалобнай цырымоніі епіскапы параўналі яго да міласэрнага самараніна, а словы і дзейнасць айца Гаўрыіла назвалі «алеем і віном», якія нас узмацнялі.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## Залатыя юбіляры

17 лістапада гэтага года ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбылося ўручэнне медалёў „За шматгадовае шлюбнае жыццё", прысвоеных прэзідэнтам РП. Войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч і загадычыца ЗАГС у Нараўцы Зіна Лукша запрасілі дзесяць пар, у тым ліку, між іншым, па дзве пары з Новага Ляўкова і Старога Ляўкова.



Падчас урачыстасці прысутныя выслухалі вясельны марш Мендэльсона, прамовы і віншаванні войта ды верш, які з гэтай нагоды напісаў новаляўковец Канстанцін Целушэцкі (ён пастаянны ўдзельнік літаратурных конкурсаў „Нівы"). Памятныя медалі, дыпломы і букеты кветак атрымалі Галіна і Анатоль Артэмюкі, Ірэна і Юрый Адамовічы, Галіна і Сяргей Бандарукі, Марыя і Канстанцін Целушэцкія, Ірэна і Мікалай Скепкі, Раіса і Віталь Прычынічы ды Вераніка і Андрэй Аўласюкі. Пасля ўручэння ўзнагарод усе праспявалі юбілярам традыцыйнае „Сто" лят". Для трох пар Эве Марыі і Уладзіміру Валкавыцкім, Ірэне і Міхалу Філіновічам ды Валянціне і Уладзіміру Хадакоўскім медалі будуць прывезены дадому.

На заканчэнне юбілейнага мерапрыемства ў Нараўцы арганізатары запрасілі ўсіх на салодкі пачастунак.

Рэдакцыя „Нівы" віншуе шаноўных юбіляраў. Жывіце нам сто гадоў!

## Імпазантная вуліца

Адной з важнейшых вуліц у Гайнаўцы з'яўляецца вуліца 3 Мая. Яна ў цэнтры горада і цяпер найбольш імпазантная. Зараз гарадскія ўлады прысвяцілі ёй шмат увагі. На вуліцы найлепшая маставая і прыгожыя роўныя тратуары. Тут бяспечна ездзіць і хадзіць. Ёсць скрыжаванне з кругавой развязкай (улетку на ім поўна кветак) і святлафоры.

Ад пачатку лістапада гэтага года ідзе вялікі рамонт доўгага і даволі шырокага тратуара на адным баку вуліцы 3 Мая, між іншым, насупраць касцёла. Тут кладуць чорную і цёмна-сінюю брусчатку. На гэтым баку артэрыі прыбыло — што не без значэння ў цэнтры павятовай метраполіі — стаянак для легкавых аўтамабіляў. Добра, што ўшанавалі прыроду і не ссеклі шыракалістых ліп, якія растуць паабапал вуліцы.

## Новыя маставыя ў Гайнаўцы

Улады Гайнаўкі многа ўвагі прысвячаюць, між іншым, гарадскім вуліцам, аднаўленню іх маставых і тратуараў, а таксама вулічнага электраасвятлення. Сёлета паклалі асфальт на маставых трох паэтычных вуліц імя польскіх паэтаў: Кахаоўскага, Міцкевіча і Тувіма ды Цесенай, Пшанічнай і Ураджайнай, а таксама на частцы вуліцы Белавежскай — на паўкіламетровым адрэзку ад вуліцы Пілсудскага да вуліцы Паркавай. На ўскраіне горада, там дзе прымыкае ён да Белавежскай пушчы, на вуліцы Цэльнай паклалі асфальт 13 лістапада гэтага года.

У гэтым годзе перабудавалі дажджавую каналізацыю на вуліцах Бярозавай і Грунвальдскай да рачулкі Лесная ды на вуліцы Рэя. Выканалі таксама маніторынг горада. **(яц)**

# XXV Беларускі абрад на сцэне

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА



Абрад «Паненскі вечар» паказалі дзеткі, бацькі і настаўніцы Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку

Цэнтральны этап XXV Прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне», які прайшоў 18 лістапада ў Гайнаўскім доме культуры, быў падвядзеннем вынікаў раённых прэзентацый абрадавых калектываў, што адбыліся раней у Бельску-Падляшскім, Дубічах-Царкоўных і два разы ў Беластоку. У Гайнаўцы па-акцёрску выступілі ўдзельнікі ранейшых прэзентацый і ўмела паказалі вясковае жыццё ў мінулым, якое было ў многіх выпадках складаным і цяжкім, але адначасна радасным моладзі і неаднакратна людзям сталага ўзросту, якія побач з цяжкай працай умелі радасна праводзіць час. У гэтым годзе большасць выступаючых саставілі дзеткі і школьная моладзь, якія падчас рэпетыцый і прэзентуючы на сцэне беларускія абрады, а ў тым ліку колішнія танцы і песні, вучыліся на практыцы традыцыям сваіх дзядуляў і бабуль. Сярод публікі ў Гайнаўцы было многа маладых бацькоў, дзеткі якіх выступалі на сцэне. У дом культуры завіталі таксама сябры вучняў, якія прэзентавалі абрады.

Фінальны агляд XXV Прэзентацый абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» адкрылі дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень. На цэнтральнае мерапрыемства прыбылі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і старшыня БГКТ Ян Сычэўскі. БГКТ з'яўляецца галоўным арганізатарам прэзентацый, а ў Гайнаўцы ладзіла іх у супрацы з ГДК.

— Прэзентацыі абрадавых калектываў «Беларускі абрад на сцэне» гэта мерапрыемства ў гонар нашых продкаў, прысвечанае нашым традыцыям, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Яно асабліва важнае маладому пакаленню беларусаў. Падчас выступаў з абрадамі дзеткі і моладзь самі дакранаюцца да нашых традыцый і знаёмяцца з іх разнароднасцю. Удзельнікам прэзентацый у сталым узросце паказаныя тут традыцыі становяцца ўспамінамі з маладосці, калі яны, жывучы ў вёсках, самі прымалі ўдзел у абрадах. Тут можна будзе паглядзець тэатральнае майстэрства выканаўцаў, якія будуць паказваць прадстаўленні, падрыхтаваныя на падставе аўтэнтычных абрадаў, — сказаў у час адкрыцця мерапрыемства віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень.

Прэзентацыі ўдала вяла Анна Бабік, якая цікава распавядала пра паасобныя абрады. Дзеткі і моладзь займальна запрэзентаваліся ажно ў шасці калектывах. Маладыя выканаўцы захапілі сабраных адважнымі выступленнямі і акцёрскімі здольнасцямі. Дашкольнікі, апранутыя ў стылізаваную на даўнюю, прыгожую вопратку, вылучаліся спантаннымі паводзінамі на сцэне. Я звярнуў увагу на дэкламатараў «Роднага слова» і расказчыкаў «Беларускай гавэнды», якія вылучаліся адвагай, вопытам і ўмеласцямі выступаць на сцэне перад публікай. Канешне, найбольш дэталёва запрэзентавалі абрады члены вакальных калектываў дарослых. Яны паказалі моманты са сваёй моладасці або з расказаў сваіх продкаў і захоўвалі аўтэнтычную атмасферу мінулага. На асаблівую ўвагу заслугоўвае багатае сцэнічнае афармленне абрадаў прэзентаваных дашкольнікамі, вучнямі і акцёрамі ў сталым узросце.

Першымі з абрадам «Вячоркі» займальна запрэзентаваліся дашкольнікі з калектыву «Калебка» Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы, якіх падрыхтавалі настаўніцы Міраслава Нікончук, Ала Супрун і Вольга Вілюк. Дзеткі адважна вялі размову з публікай па-свойму, умела запрэзентавалі даўнія танцы, удала гаварылі прымаўкі, вершыкі і гулялі ў колішнія гульні.

— Нашы дзеці вучацца традыцыям продкаў, а паказаны тут абрад створаны на падставе аповедаў нашых мам, бабуль і дзядуляў. Мы таксама вучым нашых дашкольнікаў розным рамёствам і яны ахвотна прымаюць удзел у занятках, калі мы вучым беларускай мове і нашай культуры, — заявілі настаўніцы, якія падрыхтавалі з дашкольнікамі абрад «Вячоркі».

— Я, маці дашкольніцы, вельмі рада, што мая дачка сёння ўдала запрэзэнтавалася падчас «Вячорак» як гаспадыня. Мая Анастасія апошнімі днямі жыла гэтым прадстаўленнем, паўтарала свае партыі і цікава ёй было выступаць паказваючы, як людзі жылі ў мінулым. Вельмі добра, што нашы дзеці ўжо ў дашкольным узросце маюць магчымасць знаёміцца з нашымі традыцыямі і пры гэтым так добра гуляюць. Нашых дзетак да выступу рыхтавалі настаўніцы, а мы дома толькі вучылі іх гаварыць дыялогі і вершыкі, — заявіла Анна Франкоўская.

З абрадам «Паненскі вечар» займальна запрэзентаваліся і ўмела паказалі свае акцёрскія здольнасці дзеткі, іх бацькі і настаўніцы Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку.

— У нас самыя важныя акцёры гэта дашкольнікі, але вельмі важным быў таксама выступ бацькоў. Пры родзічах дзеткі больш адважныя. Вельмі важнай ёсць дапамога настаўніц, — гаварыў Кірыл Лепай, рэжысёр абрадавага прадстаўлення «Паненскі вечар».

— Я рады, што мая цэлая сям'я сёння выступае. Гэта другі наш выступ з абрадам «Паненскі вечар», а паколькі многа бацькоў гэта польскамоўныя асобы, разам з дзеткамі вучацца гаварыць і спяваць па-беларуску. Рэпетыцыі і выступы на сцэне моцна нас усіх інтэгруюць і тут добрая нагода зацікавіцца нашымі традыцыямі, — сказаў Алег Латышонак, які выступаў разам з сынам-дашкольнікам і жонкай.

Цікава і з аўтэнтычнымі дэталямі запрэзентаваліся з абрадам «Юрыя на Бельшчыне» вучні калектыву «Жэўжыкі» з Пачатковай школы № 3 імя Ярослава Касцюшэвіча ў Бельску-Падляшскім. Падрыхтавалі іх настаўніцы Анна Фіёнік і Марыянна Ваўрусевіч.

— Нам цікава выступаць і гуляць на сцэне, — заявілі дзеткі бельскай «тройкі», а настаўніцы пахвалілі сваіх вучняў за ўдалы выступ з абрадам «Юрыя на Бельшчыне».

— Абрад на сцэне спрошчаны, але захавалі мы арыгінальныя песні і прымаўкі, — гаварыла настаўніца-бібліятэкарка і апякунка «Жэўжыкаў» Анна Фіёнік.

Інструктар Гайнаўскага дома культуры Вера Масайла, карыстаючыся аўтэнтычнымі гісторыямі з мінулага, якія пачула ад сваёй маці і вясковых жанчын, падрыхтавала сцэнарый абраду «Каб не тыя лады». Цікава запрэзентавалі іх гайнаўскія вучні, якія пад яе наглядам займаюцца ў калектыве «Званкі». Яны прыгожа спявалі, паказалі свае акцёрскія здольнасці і гралі на акардэоне.

— Я цешуся, што моладзь вучыцца нашым традыцыям і, размаўляючы па-беларуску, прэзентаваць іх на сцэне. Мы таксама спяваем і цяпер будзем рыхтавацца да выступаў з калядкамі, — гаварыла Вера Масайла.

Калектыў з Пачатковай школы ў Орлі цікава запрэзентаваўся з абрадам «Рэкруты», які падрыхтавалі настаўнікі Альжбета Цюлькевіч і Дарыюш Гарадэцкі.

— Мы нядаўна падрыхтавалі абрад «Рэкруты» да прэзентацыі і вучні многа напрацаваліся, каб паказаць як калісьці выпраўлялі маладых хлопцаў у войска, — заявіла Альжбета Цюлькевіч.

Дырэктар Пачатковай школы ў Орлі Марыя Тамчук удакладніла, што вучні і настаўнікі арлянскай школы актыўна збіраюць тапонімы, а нядаўна закончыўся збор колішніх дзіцячых цацак.

Па-акцёрску выступілі вучні Школьна-дашкольнага комплексу

працяг ☞ 10

# Грузія — мая любоў (частка 2)

Сабраліся аднойчы азербайджанцы, армяне і грузіны, маўляў, мы хоць і гордыя, але невялікія народы, мала значым у свеце, трэба нам аб'яднацца. Тады наша агульная вага значна вырасце, не толькі суседзі, але і імперыі нас запаважаць. Давайце пачнем з таго, што выберам супольную сталіцу цэлага Каўказа. Тут падымаюцца армяне і кажуць: а што тут выбіраць, калі ёсць такі прыгожы горад Ерэван? На гэта ўсхапіліся грузіны: *какой Ерэван? Канэшно столицей будэт Тбилиси!* І толькі азербайджанцы маўчаць. Ды што тут гаварыць, калі і так усё ясна — назавуць Баку. І як тады знайсці выхад з гэтага адвечнага каўказскага рознагалосся? А азеры падумалі, падумалі і заявілі: Тбілісі! Як Тбілісі? Чаму? — усхадзіліся армяне, — ладна, не хочаце падтрымліваць Ерэван, дык у вас жа ёсць свая сталіца, чаму вы яе не прапануеце? Усё проста — адказалі азеры. — Калі сталіцай Каўказа стане Тбілісі, усе армяне лопнуць ад зайздрасці, усе грузіны ад гонару. Застанемся адны мы.

Гэты анекдот, з аднаго боку, іграе на стэрэатыпах, з другога — паказвае няпростыя міжнацыянальныя адносіны на Каўказе, але таксама схільнасць да аўтаіроніі тамтэйшых жыхароў. Расказваў нам яго Малхаз Чэмія, які сам сабою ўвасабляе ўсю складанасць і ўвесь каларыт Тбілісі. Сам ён па паходжанні мінгрэл, што можна пазнаць па прозвішчы (так сама як Гамсахурдзія ці Берыя), але родную зямлю на ўзбярэжжы Чорнага мора пакінуў ужо яго бацька, а мо і дзед, а Малхаз нарадзіўся і ўзгадаваўся ў бедным азерскім квартале Тбілісі, Абанатубані, непадалёк славутых серных лазняў. У двары, акрамя азераў і грузінаў, былі рускія, армяне, курды, абхазцы, асеціны і калі дзеці гулялі, у іх гамане чулася цэлае гэтае пярэстае шматмоўе.

З азерскім кварталам, дарэчы, суседнічае яўрэйскі — Нахілаўка (у ім найбольш часу правёў іканічны грузінскі мастак-самародк Ніка Пірасмані), а з мячэці да сінагогі рукой падаць. А на другім беразе ракі Мтквары, за мостам заснавальніка града Вахтана Гаргасала і царквой Метэхія раскінуўся армянскі Аўлабар з копіяй Эчміядзінскай царквы і кіпучымі дробным гандлем вулачкамі (узгадваецца чарговы грузінскі стэрэатып: дзе армянін, там яўрэю няма чаго рабіць). Калі ў 1970-ыя гады праз гэты квартал прабівалі Кахетынскую шашу, якая вядзе між іншым у аэрапорт, тбілісцы хутка прыдумалі ёй назву: *БАМ — Болшой армянскій магістрал.*

Калі мы першы раз былі ў Тбілісі, якраз жылі ў Аўлабары ў гатэльчыку, які належаў грузінам, а кухаркай (выдатнай) была армянка. У такіх непасрэдных кантактах чалавека з чалавекам, здаецца мне, у Тбілісі надалей царыць дух, які ўзгадаваў Сяргея Параджанава. Гэтага народжанага ў Тбілісі армяніна сваім лічаць не толькі гэтыя два народы, але і ўкраінцы справядліва называюць яго бацькам свайго нацыянальнага кіно. Параджанаў распасцёр свае крылы на ўскраіне старога горада, непадалёк Мтквары, як быццам хацеў забраць з сабой у палёт над любімым горадам, які з-за палітыкаў страціў, куды яму за савецкім часам забаранілі вярнуцца. Палітыка і сёння не найлепш уплывае на жыццё спрадвечных суседзяў-тбілісцаў. Напрыклад, сабор Святой Тройцы, якім грузіны хваляцца як найбольшай царквой на Каўказе і які відаць амаль з кожнай кропкі горада, пабудаваны ў Аўлабары на месцы армянскіх могілак.

* * *

Калі гэты сабор, хаця і празмерна вялікі на даволі такі ўтульны цэнтр Тбілісі, то хаця ў сваёй форме прытрымліваецца архітэктурнай грузінскай традыцыі. Ёсць аднак новабудоўлі, якія не толькі не спрабуюць упісацца ў мясцовы гарадскі краявід, але пярэчаць пачуццю эстэтыкі і проста здароваму глузду. Палітык і мільянер Бідзіна Іванішвілі, які апракінуў прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі, пабудаваў сабе палац са шкла і металу, з пляцоўкай для пасадкі верталётаў, побач помніка Маці-Грузіі, непадалёк руін старажытнай крэпасці Нарыкала і грузінскага пантэона Мамадавіці (царква Святога Давіда і невялічкі могільнік на схіле Святой Гары — Мтацмінды). Футурыстычная канструкцыя як быццам вісіць над цеснымі, рамантычнымі вулачкамі старога горада. Звергнуты прэзідэнт Саакашвілі таксама ў гэтым плане не без граху. Адчаканіў свой манументальны палац упоперак архітэктуры суседніх будынкаў, а ў дадатак унізе казаў пабудаваць дзве велічэзныя металёвыя трубы. Кажуць, меліся ў іх арганізавацца канцэрты, працаваць рэстараны, але да сёння іх прызначэнне не да канца вядомае. А побач з імі перакінутая над рэчкай ажурная кладка, якую з-за характэрна выгнутага дашка тбілісцы празвалі жаночай пракладкай. Іншая фанабэрыя прэзідэнта-ізгоя Саакашвілі — манументальны ровар з двума рулямі ў канцы праспекта Руставелі, на пляцы, які пераназваў у гонар Рэвалюцыі Ружаў, якой сам кіраваў і якая закончыла багатую палітычную кар'еру *срэбнага ліса* Эдуарда Шэварднадзе.


Сабор Святой Тройцы над начным Аўлабарам


Наш апякун Малхаз Чэмія з Алінай дзесьці ў прыгарадзе Тбілісі


Манументальны ровар з двума рулямі на Плошчы Рэвалюцыі Ружаў.

Усяго гэтага, канешне, немагчыма не заўважыць, калі глядзець аб'ектыўна. Як і паўсюднай развалюхі ў старым горадзе ці ямаў у тратуарах многіх тбіліскіх вуліц. Інакш, аднак, справы маюцца, калі ты закаханы ў Тбілісі. Тады можаш прайсці ў батанічны сад літаральна пад сценамі палаца Іванішвілі і не звярнуць на яго ўвагі. Можаш абліваццa потам і сто разоў спатыкацца на няроўных тратуарах стромых вулачак старога горада ці Мтацмінды, а ўсё роўна запамятаеш не гэта, а пах лаваша з невялічкай пякарні, што схавалася ў падвале старога дома. Не звернеш увагі на тое, што балкон можа зваліцца табе на галаву, а на тое, што ён аздоблены багатай разьбой у дрэве. Не напалохае цябе таксама крывая, патрэсканая сцяна, падпертая заржавелай рэйкай, а захопіць тым, што маляўніча парасло яе віно.

У канцы і так трапіш у нейкае „Пасанаўры" ці „Самікітно", якія сваімі смакамі канчаткова ўвядуць цябе ў добры настрой. Жаль, няма ўжо культавай забягалаўкі „Рача" на вуліцы Лермантава, у якой было і смачна, і танна, і абслуга не разумела іншай мовы за грузінскую. А я з'еў там бадай найлепшую ў свеце жараную пячонку з кінзой і фруктамі граната. На шчасце, ёсць іншыя месцы, куды раней ці пазней вядуць нас ногі. Як хаця б вінны падвал князя Каралішвілі, схаваны ад натоўпу турыстаў на вуліцы Котэ Абхазі (тбілісцы па прывычцы называюць яе ранейшым іменем савецкага генерала Леселідзе) у ціхім завулку, зусім побач сабора Сіёні. Вяртаемся туды кожны раз пасля таго як нас асабіста ўгасціў нашчадак князёўскага роду. Нягледзячы на тое, што Малхаз толькі паўсміхаўся над яго паходжаннем: *с какой статьи он князь?*

Пра некалькі такіх месцаў у Тбілісі (і не толькі), куды нас самі ногі нясуць — праз тыдзень.

(працяг будзе)

**Мікола ВАЎРАНЮК**
**Фота Аліны Ваўранюк і аўтара**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

## Конкурс на 100 год БНР — мой герой беларус!

# Найлепшая бабуля ва ўсёй галактыцы

Маёй бабулі Алі 62 гады. Яна жыве ў Ягадніках. Мяне захапляе ў бабулі тое, што яна добра спраўляецца ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях. Яна жыве сама на малой гаспадарцы. Калісь яна была намнога большая, бо жыў яшчэ дзядуля. Ён ужо памёр. У іх тады было многа кароў. Цяпер у яе толькі куры, два сабакі і тры каты. Адзін з іх гэта бабулін кот, а два прыблукаліся і тут жывуць. Але яны вельмі прыгожыя.

Мая бабуля вельмі ўпартая. Яна штодзень устае ў 5.30, каб не спазніцца на працу. Яна прымае малако ад сялян.

Бабуля Аля вельмі радасная, яна заўсёды ўмее вырашыць кожную праблему. Я з бабуляй у час канікул езджу на грыбы і ягады.

Я люблю маю бабулю. Яна найлепшая бабуля ва ўсё галактыцы. А на дадатак яна мой герой, таму што яна радасная. Хаця яе мужа няма ўжо на гэтым свеце.

**Якуб ВАСІЛЬЧІЬК,**
7 клас ПШ у Нараўцы







# Чараўніца

З далёкай поўначы, з краю вечнага снегу і лёду, парай белых касматых мядзведзяў, спавітая ў белыя пуховыя тканіны, прыехала да нас Чараўніца. Зачаравала воды нашай мілай Зямелькі, і зрабіліся яны камянямі празрыстымі. Зачаравала лясы нашы, і заснулі яны сном глыбокім. Патрэсла шырокімі рукавамі сваёй пуховай вопраткі, і пакрыліся палі нашы снежнай беллю. І лёг наш край пад нагамі Чараўніцы белы... ціхі... задуманы. Рада яна са сваёй моцы, усміхнулася смехам ясным, хоць і халодным, і ад гэтага ўсмеху заіскрылася ўсё кругом цэлым морам брыльянтаў шматколерных. І стаіць сярод гэтага мора белі і бляску, магутная. Грозная, хоць прыгожая, ды бязлітасная. Госця наша штогодняя з далёкай поўначы — Чараўніца-Зіма.

**Зоська Верас**

Алена Кобец-Філімонава

## Сняжынка

Упала сняжынка
На шчоку Ірынкі –
Адразу ж растала,
Слязінкаю стала.
Смяецца Ірынка,
Плача сняжынка...

## УВАГА КОНКУРС!

## № 48-18

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 9 снежня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Стаіць дуб у чыстым полі,
а на ім дванаццаць голляў,
а на голлях, як заўсёды,
пяцьдзясят і два гнязды.
Па сем яек там ляжыць.
Што гэта за дуб стаіць?**
**(Г.., м....., т...., д..)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 45: мядзведзь. Узнагароды, сшыткі з беларускім арнаментам, выйгралі Іаанна Хомчык з Гайнаўкі, Вікторыя Залеўская, Дам'ян Дмітрук, Раксана Спора, Дар'я Несцярук з Орлі. Віншуем!**

# Зубр і мастацкія творы

Вось разнаколерны зубр красуецца на лагатыпе Падляшскага ваяводства. Прыдумаў яго беларускі мастак сусветнай вядомасці Лявон Тарасэвіч.

Сёння прапануем вам маляванку Алены Шалімы і верш Артура Вольскага, які звяртаецца да шэдэўра літаратуры часоў Вялікага Княства Літоўскага — «Песні пра зубра».

**(гак)**

Разам з надыходам зімы на нашы палі і лугі выйдуць статкі зуброў. Мы фатаграфуем іх і ставім у фейсбук, высылаем знаёмым з далёкіх гарадоў і краін. Кожны з нас адчувае гонар за зуброў, бо лічыць іх неад'емнай часткай нашай Бацькаўшчыны. Зубр — сімвал сілы і неўміручасці. Ён ад заўсёды натхняў паэтаў і мастакоў.

Прыклады бачым штодзень.

Размалюйце

Артур ВОЛЬСКІ

## Спатканне з вечнасцю

Снягі сплываюць зноў у Белавежы.
Ці снежань на дварэ, ці сакавік?
Нібыта вечнасць, збытаўшы ўсе межы,
згубіла дням і порам года лік.
Мы тупаем — як ногі не зняверым! —
па некранутым часам гушчары.
А ўсё — дзеля кароткае сустрэчы
з паслом дагістарычнае пары.
І вось насустрач нам сцяжынай коўзкай
ідзе хадой, упэўненай наўздзіў,
той зубр, якому некалі Гусоўскі
паэму на латыні прысвяціў.
У рухах ані крапелькі знямогі,
хоць шлях яго пралёг цераз вякі.
На лбе крутым закручаныя рогі —
нібыта ў хмары два маладзікі.
Між сосен, што стаўпіліся наўкола,
ён прыпыніўся і застыў на міг,
як рукапіс Гусоўскага Міколы
у рэдкім радзе векавечных кніг.
Той рукапіс, зусім ужо забыты
пад тоўшчай пылу старажытных схоў,
як зубр, дарэшты знішчаны нібыта,
у нашу рэчаіснасць увайшоў.
У ручаінах сонца залатое
гарыць, зіму паблытаўшы з вясной.
А я гляджу. І думкі ўсе пра тое,
што ўбачавідкі вечнасць прада мной.
Яны жывуць і будуць жыць заўсёды
як натуральнай еднасці ўзор —
тварэнне неўміручае прыроды
і чалавечага натхнення твор.

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Дыня і агурок

Агурок рана даспяваў і з-за гэтага лічыў сябе надта важным:

— Я першы сярод першых! Няма для мяне роўні ў цэлым агародзе. Хто з вас, — папракаў ён агародніну на градках, — можа перабіць мяне колерам, сакавітасцю, смакам?

Дыня спачатку маўчала, пускала між вушэй усю хвальбу агурка. А пасля сказала:

— Цябе цэняць і прызнаюць пакуль мяне няма, а пасля...

— Як гэта? — наяршыўся калючкамі агурок.

— А так! Пасля як саспею я, людзі адразу пра цябе забываюць. Яны захапляюцца маім кшталтам, колерам, сакавітасцю, смакам. А цябе пераспелага, жоўтага, горкага, без калючак, пакідаюць на градках, каб згніў.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 48-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 44-2018:**

Зрок, ява, клуб, рой, рука, верабей, герой, фанат, які, Мі, сан, макрэль. Яр, звон, рай, гама, венік, камера, рот, край, луб, Ясь, цукерка, бал, Іна.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Матэвуш Сямёнчык, Патрыцыя Нявінская, Дам'ян Даліна-Суліма** з Орлі, **Аксана Юрчык** з Міхалова, **Дам'ян Гжэсь, Шыман Карлаў, Кася Радал** з Залук, **Губерт Кіяшко, Эмілька Анелькевіч** з Шудзялава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Osa | | Kumys | | Kotka | Czekolada / Szansa | | | | |
| Stuk / Bierz | | | | | Szkoła | | | Ar | Struś |
| | | Meszka / Szakal | | | | | | | |
| | Bierz / Szyszka | | | | | | Jar | Jak | |
| Rozpad rozbicie | | | | | | | Dar | | |
| | | | Racuch | | | | | | |
| | Nos / Sałatka | | | Ada | | | | | |
| | | | | | | Ryż | | | |

# Гарадок: Сей, змагайся, кахай, гуляй і пішы!

Віктар Шалкевіч, акцёр і бард, які выступіў пасля цудоўнай сустрэчы ў Гарадоцкім цэнтры культуры на «вечары пісанай і спяванай паэзіі» 29 лістапада, зажартаваў: «і плаці». Выйшла якраз кніга «Словы з сэрца, з душы» аўтараў з Гарадоцкай зямлі, другая пасля «Пісанага жыццём», са шчырымі і простымі, моцнымі словамі. А і ён, Віктар, з суседняй Гарадзеншчыны, неўзабаве будзе мець сваю кнігу пра «Мястэчка Г.», у перакладзе на польскую мову. Але гэта будзе не пра Гарадок, з якім звязваюць яго сяброўства і ўспаміны (ён жа лаўрэат першага «Басовішча»), а пра Гродна. Вядома. Як вядомыя ягоныя песні, якія спяваліся ўсёй залай, як «Гарадоцкі раманс». Канцэрт Шалкевіча быў музычна-літаратурны, з гумарам, жартам і дасціпнай прозай. А сярод аўтараў, чые словы змясціліся ў зборніку — ёсць таксама спевакі. Адны заселі за прыгожа драпіраваным сталом, пад асеннім краявідам Марысі Мялешка, як Янка Карповіч, пры непрысутных Галене Ляховіч, Марыі Врублеўскай (пры ёй нараджалася сёння новае пакаленне!), і з памяццю аб незабыўнай спявачцы і лідарцы культуры Ніне Цыванюк. «Апошняя вячэра» — з усмешкай спаглядалі гледачы, якія запоўнілі кіназалу (пасярод высіўся Дарак Жукоўскі, якога дарогі павялі былі ў сталіцу). Прыгожа бачылася тая магутная грамадка, якая намнога шырэйшая. Бо ёсць яшчэ творцы, што дзейнічаюць на ніве літаратуры і здароўя ў далёкім Лондане (Марта і Адам Сяменчыкі), хтосьці не даў рады прыбыць па прычыне здароўя і ўзросту, як Анатоль Парэмбскі са Станцыі Валілы, ці Крыстына Кандрусік, якая ўсе культурныя і літаратурныя імпрэзы ўзрывае сваёй энергіяй. А літаратурны стол мог быць яшчэ шырэйшы, бо і моладзь на Гарадоцкай зямлі піша, і ёсць аўтары, якія ў новы зборнік тэкстаў не паспелі даслаць. А іх тут дваццаць: Марта Брассарт (Сяменчык), Ніна Цыванюк, Галена Данік, Радэк Данік, Надзея Дудзік, Раман Іванюк, Ян Федзюкевіч, Мікалай Гегель, Янук Грыцук, Кастусь Казлоўскі, Ян Карповіч, Крыстына Кандрусік, Галена Ляховіч, Анатоль Парэмбскі, Густаў Мішталь, Анна Садоўская, Адам Сяменчык, Зянон Свянткоўскі, Марыя Врублеўская і Дарыюш Жукоўскі.

Хоць зборнік збіраўся вельмі доўга. А і твораў засталося шмат неапублікаваных — у Веры Тарасэвіч, якая здаўна збірала і выдае даўніну, захаваная вялікая неапублікаваная спадчына Ніны Цыванюк, а яшчэ дойдуць усе вершы Надзеі Дудзік, даваеннай дзяячкі Таварыства беларускай школы. Бабуля Надзя дажыла амаль сотні, пісала да канца. Заўсёды са спасылкай на Сцяпана Пятэльскага «Арла» ды «Каршуна» — Янука Дарашкевіча з Меляшкоў. А ў гняздзе паэтаў — цяпер і новыя — з Сілезіі перасяліўся Густаў Мішталь, і як рэліквію беражэ ён кніжачку нашаніўца «Каршуна», выдадзеную пасля ста гадоў пасля як яе склаў у віленскае выдавецтва; кажа жонка спадара Густава: «Мы тыя «Маркотныя зоркі» неяк прачыталі, з яе мы вывучаем новую для нас беларускую мову!»

У зборніку ёсць і тыя «маркотныя зоркі», вершы пра ўспаміны і пра космас, адчуваны з нізенькай зямлі, але ёсць і жарты. Гумар не пакідае Ганку-Рыфмаванку — Анну Садоўскую з Валіл-Двара, можна сказаць, зорку беларускіх фэстаў, якой малы ўнучак Віктар таксама цудоўна спявае. Ганка, якой творчасць плённа палілася недзе ад чатырох гадоў, мае ў зборніку вельмі багатую і файную падборку вершаў перш за ўсё на беларускай мове, у тым ліку і для дзяцей. Яна і піша пра тое, чаму піша. «Я хачу пакінуць тут, на зямлі мой маленькі след. Магчыма, калі-небудзь хтосьці заўважыць сярод старых дат, што былі, што я напісала, што ў шуфляду склала — мае думкі-кампазіцыі. Як выдатна быць паэтам! Складзі са слоў няхай невялікі верш. Улавіць штосьці такое з былога лета, з-за далёкіх палеткаў, з-за каменных муроў, у павеве гукаў музыкі нябачнага музыканта. Душа паэта як зіхоткая парча. У шторм яна нават у цёмных аблоках як украпінкі золата. Паэт малюе карціну не пэндзлем, а фарбамі душы. І я хацела б стварыць арыгінальнае, непадробнае і непадкупнае, і каб яшчэ мяне пачуў той, што ловіць свет на маіх хвалях». З Аняй Садоўскай на свяце быў яе фан-клуб — «Але Бабкі» са Случанкі і ваколіц. Яны і надалі ўсяму фэсту музыкі і літаратуры найбольш жару.






Старадаўняя Гарадоцкая зямля нараджала гаспадароў і будаўнікоў, ваяроў і спевакоў, шукальнікаў мудрых слоў і ўчынкаў. З жартам па-панібрацку, са слязой у чулым воку. Яны спяваюць, як дыхаюць, пішуць, таму што хочуць. На памятку жыцця. Быцця сярод аднадумцаў, але ж якіх адрозных! Сучасных, і тужыўшых па даўніне, калі Гарадок быў вялікі. За памяццю аб тых, што былі тут. Што аралі, сеялі, ткалі, муравалі, навучалі, змагаліся, лячылі, кармілі. Будавалі дамы, садзілі дрэвы, нараджалі. Пісалі. Як сто гадоў таму ці больш, Сцяпан Пятэльскі («М. Арол») з Гарадка і Ян Дарашкевіч (Янук Д., «Каршун») з Меляшкоў, што друкаваліся ў Вільні, таксама цэнтры нашага свету, як і тутэйшы Гарадок. Здалёк мігатаўшы золатам царквы і срэбрам касцёла. На ростанях і злучэннях дарог Вялікага Княства і Кароны, першага Еўрапейскага Саюза. Саюза моў і веравызнанняў. І пра гэта пісалі і пішуць усё жыццё — не доўгае, як у Кастуся, і вяковае, як у Надзі. Рамантычнае і гарача-грамадскае, як у Ніны. Пішуць з радасцю на поўныя грудзі, як Марыя і з прыцішаным сумам дыханнем, як Галенка. З прытупам і жвава, з іскрынкамі кпінак як «званлівы» Янка. Як Анатоль, што быццам бы старадаўні старац распавядае пра старажытныя былі, а часам гулліва, у іншасказанні, прарочыць будучыню. Часам увесь «Гарадок» ведае, што «хтосьці піша», бо ж ужо раз сабраліся былі ў снапок «Каласы», а хтосьці паціху складае свае словы ў сшытачку ў шуфляду стала, на працягу многіх гадоў, і раптам расцвітаюць ягоныя словы на гарадоцкай сцэне. Адвагі дадае конкурс з крыху пацешным загалоўкам „Кожны пісаць можа». З усёй краіны пасылаюць сюды свае творы, не толькі з суседніх мясцовасцей ці гмін. Гучна аб Гарадку як аб мясцінцы «найгусцей населенай паэтамі». А мне асацыюецца мой дарагі Гарадок з песняй і вершамі, і «Культурай» — так тут усё называюць Гарадоцкі цэнтр культуры — Дом культуры імя Кастуся Каліноўскага, паўстанца, вядома, таксама паэта.





Плён з літаратурнай нівы сабрала Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі — «магутная кучка», якая рассявае нанова жывую цікаўнасць да таго, што прайшло, і таго, што ствараецца, расце і цешыць!

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

# Крыху імперскага ландшафту

Задумалася мне з'ездзіць у Войшкі ў дзень заступніка тамашняй царкоўкі, архангела Міхаіла — 21 лістапада. Сеў у аўтобус і паехаў.

Дарогу з Беластока ў Войшкі некаторыя вадзіцелі называюць „аўтастрадай". Бо гэтая дарога надта нетыповая — з аднаго боку на ёй асфальтавы насціл, з другога — жвіровы. Вядома, лепш ехаць па асфальце, чым па жвіры, таму шафёры, якія едуць з Беластока, з'язджаюць на левы бок „аўтастрады" і едуць такім чынам па-брытанску. Але калі з супрацьлеглага напрамку едзе нейкая машына, тады яны праводзяць „brexit" і з'язджаюць на час мінання на правы бок дарогі; а пасля вяртаюцца ў „brinput". Магчыма, што гэты 18-кіламетровы асаблівы адрэзак дарогі чакае нейкая перастройка, бо стаіць там шмат паведамленняў пра будучы рамонт. Якою тая дарога будзе пасля — складана здагадацца; магчыма, што будзе надалей захаваны яе еўрабрытанскі выгляд як помнік асаблівай дарожнай архітэктуры...

Калі свята, тады выпадае заглянуць у мясцовы храм. Акурат правіўся акафіст, але ў царкоўцы было ўжо даволі цесна — народу было каля трох-чатырох дзясяткаў. Каб не займаць месца, належнага мясцовым вернікам, падаўся я навонкі, а паколькі было даволі холадна, падаўся грэцца хадзьбою па вёсцы.

Войшкаўская царкоўка была ўзведзена ў 1865 годзе, як каплічка пад заступніцтвам архангела Міхаіла. Невыпадкова — грошы на яе пабудову ахвяраваў сам Міхаіл Мураўёў і гэта ў яго гонар была названа капліца. Пецярбургскі тыднёвік „Kraj" так пісаў пра яго ў 1890 годзе: „W niedługim przeciągu czasu swego zarządu M. N. Murawjew nie tylko uśmierzył powstanie zbrojne [Студзеньскае — А. В.], ale i, w całem znaczeniu tego słowa, odrodził ten kraj do nowego życia i zaprowadził w nim podwaliny zarządu, dzięki którym kraj ten z polskiego zrobił się na nowo ruskim. (...) Nie poprzestając na stłumieniu i uśmierzeniu rokoszu, hrabia Murawjew skierował wszystkie swe starania ku temu, iżby odrodzić w tym kraju spolonizowanym życie ruskie i wytworzyć takie warunki, w których życie to mogłoby się stopniowo rozwijać, utrwalać, a tem samem stanowić mocne zabezpieczenie przeciwko wszelkiej wrogiej antyruskiej propagandzie".

Каля Войшкаў абдыліся збройныя сутычкі ў ходзе Студзеньскага паўстання. Вось пасля гэтага, дзеля ўвекавечання іх памяці, 7 лістапада 1864 года было прынята рашэнне ўзвесці ў вёсцы каплічку. Віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў выдзеліў на пабудову 500 рублёў пад умовай, што збудаванне мае быць мураванае. Да пабудовы далучыліся жыхары вёскі і ўжо ў наступным годзе, 17 кастрычніка, капліца была высвячана. Капліцу перакрыта ў 1930-х гадах і з таго часу рашэннем гродзенскага архірэя можна было ў ёй адпраўляць літургіі. З ходам часу ўводзіліся дні, калі штогадова адпраўляліся там набажэнствы, аднак маглі ў ёй змесціцца толькі некалькі адпраўляючых асоб, вернікі аставаліся звонку. У пачатку 1980-х гадоў, карыстаючыся аслабленнем атэістычнага ціску, быў дабудаваны неф для вернікаў, а ранейшая частка капліцы прыняла ролю алтара. А дзесяць гадоў пазней была чарговая дабудова — званіца...

Архангел Міхаіл гэта важная постаць не толькі ў хрысціянстве; ён прысутны ў іудаізме і ў ісламе. Вікіпедыя: „Міхаіл Архістратыг — паводле Біблііі, адзін з сямі самых вышэйшых анёлаў, якія служаць Богу і з'яўляюцца выканаўцамі Яго волі. У «Апакаліпсісе» Іаана Багаслова ён падаецца абаронцам хрысціян і звяргальнікам з неба цмока з яго початам". Царкоўны даведнік: „Архангелы — у хрысціянскіх уяўленнях старэйшыя анёлы; у сістэме анёльскай іерархіі, распрацаванай візантыйскім багасловам Псеўда-Дыянісіем Арэапагітам, архангел — восьмы з дзесяці чыноў анёльскіх. Старажытнае паданне, што ўзыходзіць да старазапаветных уяўленняў, гаворыць аб сямі архангелах; з іх агульнапашыраная артадаксальная традыцыя называе па імёнах траіх: Міхаіл — нябесны архістраціг, палкаводзец верных Богу анёлаў і людзей у касмічнай вайне з ворагамі Бога; Гаўрыіл, вядомы пераважна сваім удзелам у дабравешчанні Багародзіцы; Рафаіл — архангел-лекар, спадарожнік Товіі са старазапаветнай Кнігі Товіта. У познаіудзейскіх і хрысціянскіх апокрыфах сустракаюцца і іншыя імёны архангелаў: Урыіл, Салафііл, Іегудыіл, Варахііл, Йерэміїл".

Архангел Міхалі здзейсніў, паводле тэолагаў, шмат цудаў, м.інш. абараніў Вялікі Ноўгарад ад нашэсця хана Батыя ды быў у ліку галоўных памочнікаў Жанны д'Арк у яе змаганні за абарону Францыі ад англійскага нашэсця. У ліку ўмяшальніцтва архангела Міхаіла не згадваецца Студзеньскае паўстанне, але, відаць, граф Міхаіл Мураўёў быў думкі, што архангел Міхаіл дапамог і яму здушыць паўстанне ў Беларусі і Літве; мабыць, па гэтай прычыне ў Войшках была адразу ўзведзеная ў яго гонар часоўня.

Ды не толькі ў Войшках узводзіліся храмы пасля Студзеньскага паўстання. Вікіпедыя: „Мураўёўкі — цэрквы «Найсьвяцейшага ўрадавага сыноду» Расейскай імпэрыі на тэрыторыі колішняга Вялікага Княства Літоўскага, масавае будаваньне якіх разгарнулася па здушэньні нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863-1864 гадоў. Народная назва паходзіць ад імя генэрал-губэрнатара Міхаіла Мураўёва па мянушках «вешальнік» і «людаед», які распрацаваў праграму «захадаў дзеля ўвядзеньня і перавагі ў Паўночна-Заходнім краі расейскай народнасьці» і з гэтай мэтай запрасіў у расейскага імпэратара Аляксандра II 500 тысячаў рублёў на аднаўленьне старых і будаваньне новых цэркваў у Віленскай і Гарадзенскай губэрнях. Яшчэ раней такія ж сродкі вылучылі Віцебскай, Магілеўскай і Менскай губэрням. Сотні цэркваў-мураўёвак узводзіліся паводле тыповых праектаў і мусілі ўвасобіць праваслаўна-расейскія і царкоўна-традыцыйныя рысы архітэктуры Маскоўскага патрыярхату. Іхнае будаваньне мела вызначальную ідэйна-палітычную ролю ў справе русіфікацыі беларусаў (згодна з абвешчанай расейскім царом Мікалаем I тэзай «самадзяржаўе, праваслаўе, народнасьць»). У 1865 годзе выйшлі адмысловыя «Правілы, якія трэба выконваць пры будаваньні праваслаўных цэркваў і прычэтніцкіх збудаваньняў у Паўночна-Заходнім краі», у якіх гісторыя беларускага народу тлумачылася з расейскіх манархічных і імпэрскіх пазыцыяў. «Найсьвяцейшы ўрадавы сынод» і Міністэрства ўнутраных справаў Расейскай імпэрыі зацьвердзілі сэрыю тыповых праектаў, згодна зь якімі трэба было ўзводзіць храмы. Пры гэтым забаранялася індывідуальнае царкоўнае будаваньне ў зямянскіх маёнтках, а таксама праектаваньне вясковых храмаў землямерамі ў абыход чыноўнікаў губэрнскіх будаўнічых камісіяў. Такім чынам вызначалася адносная аднароднасьць і стылёвае адзінства цэркваў, што будаваліся на тэрыторыі колішняга Вялікага Княства Літоўскага. Храмы мусілі мець аднолькавы плян і зьмяшчаць архітэктурныя элемэнты, уласьцівыя дойлідзтву Маскоўскай дзяржавы: цыбулепадобныя купалы, шатровыя завяршэньні, какошнікі, дэкаратыўную ўзорыстасьць і інш. У 2-й палове XIX ст. ажыцьцяўлялася масавае зьнішчэньне старажытных праваслаўных цэркваў Вялікага Княства Літоўскага, а таксама перабудова ў стылі архітэктуры Маскоўскай дзяржавы колішніх рымска-каталіцкіх, уніяцкіх і нават спрадвеку праваслаўных (Канстантынопальскі патрыярхат) сьвятыняў. Падобным чынам Маскоўскі патрыярхат імкнуўся абазначыць «кананічную» тэрыторыю. Фінансавалася гэтая справа з сродкаў, сабраных з удзельнікаў нацыянальна-вызвольнага паўстаньня ў выглядзе штрафаў і кантрыбуцыяў. У выніку падобных рэканструкцыяў адбывалася зьнявечаньне кампазыцыяў і стылёвага разьвязку помнікаў архітэктуры, зьнішчаліся высокамастацкія фрэскі, алтары, амбоны і інш. Яшчэ ў савецкі час збудаваныя на загад расейскіх уладаў аднатыпныя цэрквы ацэньваліся як матэрыяльны выраз каляніяльнай палітыкі царызму. Мастак М. Купава паказвае на тое, што ў часы савецкага панаваньня бальшавікі часьцей руйнавалі ня цэрквы-мураўёўкі, а старажытныя беларускія сьвятыні. Напрыклад, у Воршы адзіная збудаваная расейскімі ўладамі царква-мураўёўка засталася некранутай, пры гэтым савецкія ўлады зьнішчылі чатыры царквы і два касьцёлы, якія зьяўляліся помнікамі архітэктуры барока часоў Вялікага Княства Літоўскага; у Шклове таксама захавалася толькі царква-мураўёўка, а пад руйнаваньне трапілі каштоўныя помнікі сакральнай архітэктуры магілёўскага барока і клясыцызму; у Магілёве захаваліся дзьве царквы-мураўёўкі, пры гэтым места страціла тры царквы і два касьцёлы, помнікі архітэктуры барока, а таксама тры царквы і касьцёл, помнікі архітэктуры клясыцызму. Падобныя выпадкі таксама назіраліся ў Лагойску, Койданаве, Дзісьне, Горадні і інш." Гэта з Вікіпедыі, дзе да пададзенага тэксту дадаецца пералік перайначаных на маскоўскі лад храмаў у цяперашняй Беларусі. У нас адбывалася тое ж. Для прыкладу, „мураўёўкі" ставілі ў Сямятычах (царква Пятра і Паўла), Гродзіску, Коснай, Кляшчэлях, Жэрчычах, Патоцы, Рыбалах, Васількаве, Рыгалоўцы, Нараўцы, Бельску (Васкрэсенская царква), Фастах, Высокамазавецку, Цеханоўцы, Ломжы і іншых мясцовасцях. Некаторыя з іх — у Высокамазавецку, Рыгалоўцы, ці Ломжы — зараз з'яўляюцца касцёламі, якія сваім вонкавым дызайнам абавязаны царскаму графу Міхаілу Мураўёву. Некаторых з іх ужо і зусім няма, напрыклад у Ліпску ці Лапах...


Капліца ў Войшках

Але цяпер можна, у сваю чаргу, заняцца пытаннем: а што было б, калі б графу Мураўёву не ўздумалася аддзячыць архангелу Міхаілу за ягоныя цуды? Які быў бы тутэйшы храмавы пейзаж? Сколькі даўніх цэркваў і ў якім стане захавалася б па сённяшні дзень? Як выглядалі б захаваныя?.. Напэўна наш ландшафт выглядаў бы значна інакш...

Заняўся я апісаннем храмаў, пабудаваных царскімі ўладамі, пры нагодзе паездкі ў Войшкі, а пра самую вёску не стае мне ўжо месца. За гэта каюся і мяркую, што пра Войшкі ўдасца мне нешта напісаць у найбліжэйшым часе.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

4 ☞ працяг

# XXV Беларускі абрад на сцэне

ў Нарве, якія пад наглядам настаўніцы беларускай мовы Ніны Абрамюк падрыхтавалі сцэнку «Вываражыла».

— Мы любім выступаць перад публікай, перад якой можам паказаць свае ўмеласці і вучымся адвагі, — гаварылі вопытныя акцёры са школы ў Нарве Уладзімір і Марк Кутузавы, а іх сястра Хрысцінія запрэзентавалася на сцэне ўпершыню і моцна хвалявалася.

— Сёння выступілі мае вопытныя акцёры і пачаткоўцы, з якімі мусіла я намнога даўжэй папрацаваць падчас рэпетыцый, каб навучыць іх выступаць на сцэне. Сцэнарый абраду падрыхтавала я на падставе расказу Юркі Генюша і расказаў старэйшых людзей, якім солтыс і бабкі былі вельмі важнымі асобамі. Выснова такая, што не трэба слухаць бабак, якія часта давалі парады пад сваю карысць. Мы многа рыхтаваліся да выступу, але каб заахвоціць да вучобы беларускай мове ў школе трэба таксама многа працаваць па-за ўрокамі, — сказала настаўніца Ніна Абрамюк.

Падчас сёлетняга выпуску «Беларускага абраду на сцэне» выступілі школьнікі з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага, Беластока, Нарваўскай і Арлянскай гмін. Вучні дакладна вывучылі партыі сваіх дыялогаў, а старэйшыя выканаўцы, якія яшчэ памятаюць абрады са сваёй маладасці, крыху імправізавалі на сцэне.

■ Абрад «Вячоркі» прадставілі «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага

Абрад «Вячоркі» па-акцёрску і з гумарам прадставіў Беларускі хор песні і танца «Васілёчкі» з Бельска-Падляшскага, сцэнарыстам і рэжысёрам якога была арганізацыйны кіраўнік хору Ніна Бялецкая.

— Мы хацелі паказаць як у мінулым людзі працавалі і адпачывалі ў нашых вёсках. Нашы жанчыны ў час вячорак на сцэне робяць на прутках, вышываюць, прадуць на калаўротку, мужчыны вяжуць венікі і робяць іншыя працы, а падчас пакудзелля таксама ёсць многа жартаў і гумару, так як бывала ў мінулым, калі людзі спатыкаліся ў кампаніі, — заявілі яшчэ да выступу на сцэне Ніна Бялецкая і Уладзімір Весялоўскі з «Васілёчкаў».

«Малінкі» з Маліннік цікава і з дэталямі паказалі абрад «Калядаванне даўней», якіх падрыхтавала кіраўнік калектыву Вера Нічыпарук.

— Мы паказваем абрады, якія яшчэ памятаем з моладасці. Цяпер паказваем калядаванне ў хаце бацькоў маладой. Падчас першага пасля вяселля святкавання Хрыстовага Нараджэння маладыя прыязджалі да бацькоў маладой і туды прыходзілі жыхары вёскі і спявалі спецыяльныя калядкі і віншавалі маладожанаў. Гэтага зараз амаль няма, а мы паказалі, як было ў мінулым, — гаварыла Вера Нічыпарук.

Калектыў Універсітэту трэцяга веку ў Бельску-Падляшскім дзейнічае пад кіраўніцтвам Тамары Русачык і ўдала запрэзэнтаваў абрад «Асеннія вячоркі».

— Сцэнарый абраду «Асеннія вячоркі» я падрыхтавала на падставе даступных інфармацый пра беларускія абрады і назіранняў з нашых вёсак, — сказала старшыня Аб'яднання «Універсітэт трэцяга веку» ў Бельску-Падляшскім Тамара Русачык.

Ад пачатку прэзентацый акцёры былі ў жывым кантакце з публікай, якая эмацыйна ўспрымала паказаныя на сцэне абрады ў выкананні паасобных калектываў, моцна апладзіравала.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

---

Беларускай Народнай Рэспу...

„Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі". Мацей Бурачок

# http://abjava.by

Прайшло ўжо больш за 20 гадоў з таго моманту, як з падачы нязменнага правіцеля ў Мінску беларуская мова згубіла статус адзінай дзяржаўнай мовы ў Беларусі. Сказаць, што з тых часоў пачаўся яе суцэльны занапад, значыць, не сказаць нічога. На вуліцах беларускіх гарадоў цяжка сустрэць людзей, якія размаўляюць па-беларуску, у тамтэйшых кнігарнях можна ўвогуле не адшукаць кнігу на беларускай мове, а для мноства дзяцей цяперашніх беларусаў незразумела, чаму беларуская мова ў школе называецца роднай, бо ані там, ані ў доме па-беларуску з імі ніхто не размаўляе. Па вялікім рахунку, незайздроснае жыццё беларушчыны мусіла б ужо скончыцца такой жа незайздроснай смерцю, але пакуль гэтага не адбываецца насуперак тым, хто кажа, што беларуская мова нікому непатрэбная.

Для таго, каб мова жыла, яе трэба выкарыстоўваць не толькі ў вершах паэтаў, творах пісьменнікаў, артыкулах журналістаў. Яна жывая, калі на ёй размаўляюць у паўсядзённым жыцці. А ў паўсядзённым жыцці людзей цікавяць звычайныя, можа не надта вялікія тэмы, напрыклад, такія як пакупкі і продаж. У камунікацыі па такіх пытаннях лагічней выкарыстоўваць тую мову, якую можна пачуць паўсюль. І ў Беларусі гэта мова не беларуская. Аднак нягледзячы на такую прыкрую рэчаіснасць, знаходзяцца апантаныя беларушчынай людзі, якія спрабуюць і спрабуюць зрабіць з беларускай мовы мову паўсядзённага ўжытку. Адным з прыкладаў такой спробы з'яўляецца сайт абвестак, які літаральна гэтай восенню з'явіўся ў інтэрнэце.

Сайт Doška abjavaŭ (назва падаецца беларускай лацінкай) знаходзіцца па адрасе **https://abjava.by/**. Уверсе выяўлення галоўнай старонкі дзве выявы, якія можна змяняць, клікаючы на стрэлачкі з правага ці левага боку. Стваральнікі сайта абралі для аздаблення фотаздымак Мірскага замка і калаж, датычны Беларускай Народнай Рэспублікі са словамі Багушэвіча „Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі". „Abjava.by ўяўляе адаптыўную ўніверсальную дошку аб'яў з трохузроўневым каталогам, з універсальнымі фільтрамі, увaходам праз Google, імпартаванне курса $ для даведчых мэт пры праглядзе аб'яў, магчымасцю прасоўвання (вылучэння і замацоўвання) аб'яў — для гэтага распрацавана сістэма токенаў і промакодаў. Кожныя суткі кожную аб'яву можна ўздымаць бясплатна", — распавядаецца пра новы рэсурс на партале беларускамоўнага бізнесу „Свае".

Усе катэгорыі тавараў у каталозе на галоўнай старонцы падаюцца выключна па-беларуску. Праўда, змест аб'яў не заўсёды беларускамоўны, часцей яны напісаны па-руску. Прычым частка паведамленняў, відаць, была імпартавана з іншага сайта — Obyava.ua, які ёсць цяпер партнёрам беларускамоўнага партала.

Пакуль на Doščy abjavaŭ большая частка раздзелаў каталога не мае аніводнага паведамлення. Пэўна гэта таму, што ў дадзенага сайта ўсё толькі пачынаецца, але потым ён напоўніцца разнастайнымі абвесткамі, прычым па-беларуску. Застаецца спадзявацца, што новаму амбітнаму праекту, як называюць яго „Свае", удасца не толькі знайсці пакупніка і прадаўца, але і прасунуць у шырокія колы грамадскасці беларускую мову. „У бягучы момант прымае абвесткі па-бел і па-рус, некаторыя абвесткі па-рус перакладаюцца на беларускую. Жадаем найхутчэйшага развіцця і раскруткі!" — пішуць „Свае".

❖**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

Дата з календара

Падзеі і асобы БНР

# 80 гадоў з дня забойства Браніслава Тарашкевіча

Беларускі грамадска-палітычны і асветны дзеяч, мовазнавец, літаратуразнавец, публіцыст Браніслаў Тарашкевіч нарадзіўся 20 студзеня 1892 г. у засценку Мацюлішкі (каля 30 км ад Вільні) у сям'і каталіцкага селяніна. Дапамагаў бацьку на гаспадарцы, быў пастухом. У народнай вучэльні Браніслаў паказаў выдатныя вынікі. У 1906 г. памешчыца Гелена Стамброўская забрала яго да сябе і дапамагла паступіць у 3 клас 2-й Віленскай гімназіі. У 16 гадоў Браніслаў пачаў зарабляць рэпетытарствам. У гімназіі паказаў сябе добрым вучнем. Трапіў у студэнцкія згуртаванні, адным з такіх была арганізацыя з клерыкальным кірункам „Вызваленне". Яна дзеіла пад лозунгам: „Навука, Цнота, Айчына" на ўзор філаматаў. Тарашкевіч быў у левым крыле гуртка, цікавіўся палітычнай філасофіяй і эканомікай. Тады ён самавызначыўся як беларус, перастаў хадзіць у касцёл. У час навучання ў Вільні пазнаёміўся з беларускай інтэлігенцыяй, рэдакцыяй „Нашай нівы".

У жніўні 1911 г. прыняты на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Цягам чатырох гадоў вучыўся пад кіраўніцтвам вядомых мовазнаўцаў. Навуковым кіраўніком Браніслава быў акадэмік Аляксей Шахматаў. У Пецярбургу Браніслаў стварыў і ўзначаліў навукова-літаратурны гуртoк. Даволі блізка сышоўся з Янкам Купалам. У Пецярбургу Тарашкевіч прыхільна ставіўся да польскага нацыянальнага руху. У 1916 г. скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Петраградскага ўніверсітэта, працаваў там прыват-дацэнтам-філолагам.

У 1917 г. стаў удзельнікам і адным з лідараў Беларускай сацыялістычнай грамады. Быў у Мінску ў час абвяшчэння БНР. Палітычная пазіцыя на той час — хістанне паміж прызнаннем рэвалюцыі, лаяльнасцю да бальшавікоў і платформай беларускіх незалежнікаў. Актыўны дзеяч у Беларускім народным камісарыяце ў Петраградзе ў лютым 1918 г., загадчык аддзела культуры і асветы. Выкладаў беларускую і старажытнагрэцкую мовы ў Мінскім педагагічным інстытуце. З наступам бальшавікоў з'ехаў у Вільню. У 1920 г. — загадчык беларускага сектара дэпартамента асветы Сярэдняй Літвы, з 1921 г. — дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 г. абраны паслом у польскі Сейм. Тры гады старшыня Беларускага пасольскага клуба. Спрабаваў знайсці аб'яднальны вектар для польскага і беларускага народаў.

Распрацаваў праект аўтаноміі Беларусі, кансультуючыся з адвакатам Тадэвушам Урублеўскім. У лютым 1924 г. узяў удзел у стварэнні Беларуска-польскага таварыства ў Вільні, за што быў адхілены ад старшынства ў Беларускім пасольскім клубе. У 1925 г. выйшаў з БПК і заснаваў пасольскі клуб БСРГ. Стаў старшынёй клуба, а пасля і створанай на яго аснове палітычнай партыі. Шчыльна зблізіўся з лідарамі КПЗБ, быў прыняты ў партыю. У студзені 1927 г. арыштаваны ўладамі Польшчы, у траўні 1928 г. засуджаны на 12 год зняволення. У 1929 г. тэрмін зменшаны да 8 гадоў, а ў траўні 1930 г. датэрмінова выйшаў з турмы. Актыўна далучыўся да камуністычнай выбарчай кампаніі ў польскі парламент, уваходзіў у клуб „Змаганне". Жыў у Гданьску. У лютым 1931 г. арыштаваны пры спробе праехаць праз польскую тэрыторыю ў Берлін. Засуджаны да 8 гадоў турмы. У верасні 1933 г. у выніку абмену палітвязнямі, выехаў у СССР. Працаваў загадчыкам аддзела Польшчы і Прыбалтыкі ў Міжнародным аграрным інстытуце ў Маскве.

6 траўня 1937 г. арыштаваны. У студзені 1938 г. НКВД прыгавораны да расстрэлу. Па афіцыйнай версіі расстраляны 29 лістапада 1938 г. Леанід Маракоў выказаў версію, што яго закатавалі да смерці.

❖**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Чаромхаўская сустрэча



Напярэдадні стагоддзя атрымання незалежнасці Польшчы, 10 лістапада, у Гмінным асяродку культуры члены Чаромхаўскага клуба «Сеніёр+» гасцявалі беларускага партнёра — прадстаўнікоў Камянецкага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання. У суботу зранку дэлегацыя з шасці жанчын падалася на пагранпераход у Пяшчатку, а адтуль у кампаніі праваднікоў прадоўжылі падарожжа ў Чаромху. Гасцей раскватаравалі ў ГАК. Затым арганізавалі ім экскурсію ў Бельск-Падляшскі. Няшмат было часу на агляданне горада ды мясцовых помнікаў. А 14-й гадзіне прадугледжвалася супольная сустрэча. Мерапрыемства пачалося роўна ў назначаны час. Прысутнічаў новаабраны войт гміны Юры Васілюк. Старшыня клуба «Сеніёр+» Здзіслаў Закшэўскі прывітаў беларускіх гасцей: Марыю Міхайлаўну Кузьміцкую (кіраўніка ўправы па працаўладкаванні і сацыяльнай абароне Камянецкага райвыканкама), Наталлю Уладзіміраўну Цэкала (кіраўніка аддзела дзённага знаходжання людзей паважнага ўзросту), Зінаіду Іванаўну Мікуліч, Анну Валяр'янаўну Грушэўскую, Анну Пятроўну Аксёнаўну і Марыю Міхайлаўну Лукашэвіч ды прысутных членаў клуба «Сеніёра+».

— Сустракаемся ўпершыню з беларускімі партнёрамі, — гаварыў прамоўца. — Лічу, што не апошні. У рамках супрацоўніцтва будзем арганізаваць культурныя мерапрыемствы. Бліжэй знаёміцца, — а затым, крыху збянтэжыўшыся, прыбавіў: — Прабачце, даражэнькія, я не найлепшай якасці аратар... Дык скажу проста: запрашаю да пачастунку і жадаю вясёлай забавы.

Музычнае афармленне ў рытм гітоў жанру дыска-пола забяспечыў сам Здзіслаў Закшэўскі. Сталы былі багата застаўлены рознага віду мяснымі вырабамі вяндлярні спадарства Дунікоўскіх з Праневічаў (добразычлівы спонсар), смачным пячэннем з прыбранымі банкухам-«сэнкачам» і тортам уключна, напіткамі, фруктамі, спіртным у міжнароднай польска-беларускай афарбоўцы, не згадваючы ўжо аб гарачых стравах і закусках. За гэта паклапацілася дырэктар асяродка культуры Барбара Кузуб-Самасюк.

У час выступлення кіраўнік Марыя Міхайлаўна Кузьміцкая сказала:

— У рамках культурных мерапрыемстваў прадугледжваецца абмен дэлегацыямі, арганізаванне супольных сустрэч ды імпрэз з нагоды дзяржаўных гадавін, танцавальных вечарын ды іншае. Камянецкі цэнтр абслугоўвання займаецца справамі паважных людзей ды інвалідаў, таксама сем'яў дзетак з абмежаваннямі. Пры ўстанове працуе аддзяленне дзённага прабывання асоб пажылога ўзросту, якое наведвае трыццаць чалавек. У рамках культурна-асветнай працы дзейнічаюць групы зацікаўленняў, музычная студыя. Усё гэта робіцца дзеля таго, каб сеніёры не адчувалі сябе адзінокімі, забытымі...

Адазваліся гукі музыкі. Закружыліся ў танцы пары — чаромхаўскія сеніёры з камянецкімі партнёркамі. Я пакарыстаўся запрашэннем прыяцеля Здзіська Закшэўскага. Не спадзяваўся падаваць на імпрэзу, бо вынікла праблема з транспартам. Але сябры не падвялі. Дачушка мясцовага прадпрымальніка Януша Ліпінскага падвезла да клуба, а дамоў адправіўся ў поўным разгары забавы каля шостай вечара з войтам-электам Юркам Васілюком, які сам мне прапанаваў падвезці. Шкада было пакідаць вясёлую кампанію. Але каму ў дарогу, таму час. А наступнага дня сябрук Закшэўскі па тэлефоне паведаміў, што імпрэза доўжылася да дзявятай вечара. Раніцай былі «паправіны». Перад ад'ездам гаспадары наладзілі яшчэ гасцям турыстычна-краязнаўчую эскападу на Святую Гару Грабарку, а пры вяртанні ў Чаромху наведалі могільнік савецкіх салдат у Мілейчычах. Затым у пасляабедні час госці адправіліся ў Камянец. Развітанне было сардэчнае, сяброўскае са... слязінкаю ў вачах. Гэта была ўдалая польска-беларуская партнёрская сустрэча.

Тэкст і фота **Уладзіміра СІДАРУКА**

1 ☞ працяг

## Новыя ўлады Гайнаўскага павета

ў Пружаны. Неўзабаве будзем фіналізаваць дамову з Брэстам у справе супрацы з нашым паветам. У рамках Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» выступалі мы разам з прыгранічнымі рэгіёнамі Рэспублікі Беларусь за сродкі на цвёрдыя інвестыцыі па абодвух баках мяжы, між іншым, у інфраструктуру і такія сродкі атрымлівалі. Цяпер тэрыторыя, з якой можна выступаць за такія сродкі, пашырана ажно пад Варшаву, а я лічу, што гэтая зона павінна быць звездзена да сапраўды прыгранічных раёнаў.

Стараста Андрэй Скепка звярнуў увагу на іншыя козыры супрацы з Рэспублікай Беларусь:

— Мяжа перарэзала пушчанскую і навакольную тэрыторыю, абмяжоўвае развіццё Гайнаўскага павета. Аднак я прыхільнік шукання козыраў прыгранічнага распалажэння нашага павета. З выкарыстаннем пагранпераходаў расце гаспадарчае развіццё павета. Адбылася разбудова пагранперахода для аўтамабільнага транспарту каля Полаўцаў і фітасанітарнага чыгуначнага пагранперахода каля Семяноўкі. Штораз больш турыстаў карыстаецца пагранпераходам каля Белавежы. У Сувальскай эканамічнай зоне, непадалёк ад чыгуначнага пагранперахода каля Семяноўкі, адкрылі дзейнасць новыя суполкі, якія займаюцца гандлем і карыстаюцца чыгуначным транспартам. Паўсталі там новыя месцы працы. Многа маладых асоб паехала за працай у заходнія краіны Еўропы, дзе заробкі прыблізна ў чатыры разы большыя чым у нас, а ў нашым павеце цяпер працуе каля чатырохсот украінцаў і беларусаў, якія прыехалі да нас з-за ўсходняй мяжы і сталі працаваць на гаспадарчае развіццё нашага павета, — заявіў стараста Андрэй Скепка.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## СПАЧУВАННІ

**Сям'і і ўсім праваслаўным Падляшша сардэчныя словы спачування па прычыне вялікай страты — смерці**

**АРХІМАНДРЫТА ГАЎРЫІЛА**

**выказваюць былы генеральны консул РБ у Беластоку Міхаіл Аляксейчык з сям'ёй і праваслаўнымі вернікамі Беларусі. Вечная памяць!**

## Адгаданка

**1.** юрыдычная пастанова, правіла, **2.** лёгкае непрамакальнае паліто, **3.** цэнтр Падляшскага ваяводства, **4.** зручны струнны шчыпковы музычны інструмент, **5.** шкляначка на ножцы для спіртных напояў, **6.** думка, **7.** адвар з мяса з дабаўкай розных прыпраў, **8.** дзяржава між Партугаліяй і Францыяй, **9.** мяшочак з даматканай тканіны, **10.** муж цешчы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 44 нумара**

Войт, каса, урду, якут, кунтуш, лёс, анаконда, рой, дзіра, цырк, цаля, рэха, пруток, спіна, кампот.

Рашэнне: **У якой шкуры асёл нарадзіцца, у такой і памрэ**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Іаанне Хомчук** з Гайнаўкі і **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага.

# 02.12 — 08.12

**Баран (22.03. — 20.04.)** „Вядома, ёсць больш рэчаў важнейшых за грошы, ды каб іх купіць, грошы патрэбныя". Няма асаблівых шанцаў на поспехі, звычайны, спакойны тыдзень. У каханні — час падрахункаў. Сям'я і сябры — поспех у калектыве.

**Бык (21.04. — 21.05.)** „Чалавек разумны мае перавагу над іншымі не так у выбары добрых рэчаў, як у пазбяганні благіх". Тыдзень выклікаў. Каханне — не слухай плётак. Праца і фінансы — найлепш з гэтым асцярожна. Здароўе — адпачынак і пачуццё гумару.

**Блізняты (22.05. — 22.06.)** „Добрае выхаванне — пільнае скрыванне таго, як мы добра думаем аб сабе, а блага аб іншых". Тыдзень працы і сур'ёзных адносін да здароўя. Час разважлівых раманаў. З сябрамі і сям'ёй папі гарбаты. Пільная праца і навука. У здароўі пазітыўныя змены.

**Рак (22.06. — 23.07.)** „Самы шчаслівы чалавек гэта той — хай ён кароль, хай жабрак — хто знаходзіць спакой у сваёй хаце". Зоркі дададуць табе крылаў. У каханні сонечныя дні. Радасныя моманты і новыя захапленні сярод радні і сяброў. Новыя шанцы ў працы і фінансах.

**Леў (24.07. — 23.08.)** „Чалавек пяройдзе свет шукаючы шчасця, а знаходзіць яго вярнуўшыся дахаты". Бляскі і цені ў сям'і. Асцярожна з фліртамі. Важныя сямейныя ўрачыстасці. Пазбягай змен на працы. Зменная форма і здароўе.

**Дзева (24.08. — 23.09)** „Быць жанчынай гэта сапраўды цяжкі занятак, паколькі справа ў тым, што галоўным чынам маецца дачыненне з мужчынам". Вятры спрыяюць. Не фліртуй зашмат. Супольныя ініцыятывы з сям'ёй і сябрамі. Навука — ключ да магутнасці. Дасканалая форма здароўя.

**Шалі (24.09. — 23.10.)** „Не хопіць таго, што ты любіш грошы, грошы павінны любіць цябе!" Тыдзень фінансавых аналізаў. Рамантычныя гульні. Праца і фінансы: каханыя грошыкі! Здароўе ў норме (толькі не пі літрамі кавы ды высыпайся!).

**Скарпіён (24.10. — 22.11.)** „Жыццё — як гульня ў брыдж. Тое, якія ты карты дастанеш, гэта дэтэрмінізм. Тое, як іх выкарыстаеш — вольная воля". Планы і надзеі на лепшую будучыню. Каханне — жарсці і недахоп памяркоўнасці. Цяжка ўседзець дома. Час экспансіі ў фінансах. У здароўі ты — міс Задыяка.

**Стралец (23.11. — 22.12.)** „З гадамі так як з Сівілінымі кнігамі — чым больш іх згарыць, тым становяцца даражэйшымі". Спаволні тэмп! У каханні — без змен. Час ашчаднасці і хатняга сядзення. Не рызыкуй непатрэбна ў фінансах. Ненайлепшая форма.

**Казярог (23.12. — 20.01.)** „Вопыт — сума памылак здзейсненых і тых, якіх з жалем мы не здзейснілі". Тыдзень надзей. Каханне — выезды і вяртанні. Госць у хату — бог у хату. Прыхільнасць кіраўніцтва. Здароўе — форма ў клетку.

**Вадалей (21.01. — 19.02.)** „Надзея — своеасаблівае шчасце і — мабыць — адзінае шчасце, на якое свет можа сабе дазволіць". Кар'ера перш за ўсё! У каханні нервовыя непаразуменні. Службовыя банкеты. Час амбітных намераў на працы. Асцярожна з алкаголем!

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** „Чалавек смяецца з кахання так доўга, пакуль тое яго не спасцігне". Снежаньскія шаленствы! У каханні мілыя хвіліны. Адкрыты дом. Час навучання, новай дзейнасці, асаблівая для пенсіянераў. Знакамітая форма (варта паладзіць сваё здароўе ў санаторыі).

— **Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Пайшла па святых месцах і аздаравела ч.II

Дарогу ў Грушку ведае з часоў пасляваеннага дзяцінства. З Радзевіч дабіраліся з маці пешшу напрасткі. Навокал святога месца сталі вазы, пры іх сяляне прадавалі яблыкі і грушы. Вера Кірылюк запамятала багаслужбы і настрой непрымушанай павагі. А пасля, вечарам, ладзілі танцы ў сяле. Тады яшчэ не прадчувала, што ў далёкай будучыні прыйдзецца ёй падымаць з заняпаду Грушку.

Адразу пасля выхаду са шпіталя пайшла чысціць могілкі ў Вярховічах.

— Людзі слухалі мяне, — кажа, — давяралі.

Пасля прыйшла чарга на Грушку. Пабудова царквы спынілася на вышыні вокнаў. На пляцы ляжала куча цэглы, якую безупынна раскрадалі. Не хапала грошай, каб раскруціць пабудову. Пасля Каляд жанчыны пайшлі са звяздой па вёсках. Людзі давалі грошы, але гэта была капля ў моры. Вера Мікалаеўна падумала, каб знайсці надзейнага спонсара. Спачатку пабаялася ісці да Віктара Аркадзіча. Адна жанчына з Бушміч папярэдзіла яе: — *Ты лепш не ідзі да яго, бо ён выкідае людзей з кабінета!*

— А якраз меў прыехаць да нас старшыня райвыканкама, — успамінае мая субяседніца. — Праўда, замест старшыні прыехаў яго намеснік. Я іду да яго і кажу: — *Такое і такое дзела... дапамажыце прыхіліць к нам вніманіе Віктара Аркадзіча.*

* * *

А мне вельмі хацелася схіліць увагу маёй гераіні да сямейных расказаў. У яе прыбранай хаце ўсю ўвагу займаюць партрэты мужчын. А найбольш — даваенны здымак бацькі. Гэты стройны, з гарэзлівай усмешкай мужчына пайшоў з жыцця разам са сваімі тайнамі.

— Я многа разоў пытала ў яго пра ваенныя гады, — прыгадвае Вера Мікалаеўна, — але ён толькі пасміхаўся. Гаварыў: было, мінула, не вернецца. Баяўся парушыць хатні мір, нерваваць маці.

— Але ён вельмі сумаваў па жанчыне, — прыгадвае спадарыня Кірылюк, — усё думаў, як паехаць у Польшчу, адшукаць яе. Не ведаў, ці засталася яна ў Польшчы, ці разам з хваляй бежанцаў пераехала ў Нямеччыну? І што сталася з дваімі дзяцьмі? Ці перажылі яны ваенны кашмар, ці ўцалелі? Бацька ўсё перажываў за іх, шкадаваў... Тут, за жалезным кардонам, трэба было маўчаць, утаймаваць парывы сэрца. Інакш, прыйдуць, прыпішуць здраду, стануць клеймаваць родных...

У пачатку вайны бацьку маёй субяседніцы вывезлі на прымусовыя работы ў Прусію. Папаў на гаспадарку, якой кіравала маладая жанчына. Яе муж служыў у Вермахце. Прыгажун Мікалай пасябраваў са сваёй гаспадыняй, пасля не хацеў з ёй расстацца, пакінуць адну з дзеткамі... Але прыйшла савецкая армія і яго мабілізавалі на фронт, адкуль вярнуўся прыбітым інвалідам. Усё, што здарылася цягам ваенных гадоў у Прусіі, трэба было выкінуць з галавы, забыць...

* * *

Задума і дзеянні, каб прыцягнуць увагу Віктара Аркадзіча, хоць каштавалі многа настойлівасці і страху, пачалі ажыццяўляцца.

— Харашо! — адказаў тады Веры Мікалаеўне чыноўнік. — Пазваніце мне праз некалькі дзён...

Стрымаў дадзенае слова. Праз некалькі дзён Вера Кірылюк дабілася да «страшнага» кабінета. Прывітаў яе сам Аркадзіч і ветліва запрасіў усярэдзіну: — *Захадзіце! Захадзіце!*

Віктар Бабёр, старшыня калгаса ў Даўбізне не толькі паабяцаў выкласці грошы на цэглу і вапну, але накіраваў на будову сваіх работнікаў. Але тады, у час першай сустрэчы, калі ўжо завяршылі дзелавыя размовы, ён надта хацеў ведаць, чаму адразу Вера Мікалаеўна не прыйшла да яго за дапамогай. Навошта абівала чужыя парогі? Ці ж ён у нечым падпаў, правініўся? І яна, па-жаночаму, яшчэ не давяраючы свайму поспеху, адказала:

— Прасціце мне, я простая жэншчына. Пасля катастрофы, пасля цяжкай аперацыі. Баялася! Ну ляпну не тое, што трэба, ды расхвалююся і не перажыву гэтага ўсяго. Памру на месцы і яшчэ бяды нараблю добрым людзям... А ж трэба будаваць Грушку!

З тае пары дырэктар Бабёр стаў не толькі іх галоўным спонсарам. Прыязджаў на месца, цікавіўся кожнай дробяззю. Часам апярэджваў іх жаданні і планы.

— Раз прыехаў і кажа, што ўжо купіў сінюю і галубую фарбу і пытае ці не падыдзе такі колер, — прыгадвае спадарыня Кірылюк. — А мы якраз з бацюшкам думалі, як папрасіць у яго грошы на такую фарбу.







* * *

Так, усё гэта далёкія ўспаміны. Нібыта работа зроблена, усё дагледжана, людзі задаволены. Вера Мікалаеўна рада за паломнікаў, якія безупынна прыбываюць у Грушку па суцяшэнне. Сама адчувае вялікую благадаць:

— Я там начавала б дзень і ноч, — кажа. — Там лёгка мне дыхаць, думаць пра задачы і справы, якія трэба яшчэ завесці ў парафіі. Вось зараз прыдумала новую акцыю. Збірае дапамогу для матушкі-ўдавы па бацюшку Георгію.

— Людзі даюць, хто што можа, — кажа, — бульбу на зіму, буракі. Хоць крышку якая помач будзе...

Пакойнага бацюшку, які памёр раптам на 39 годзе жыцця, у Вярховіцкай парафіі называюць *Юрыем Пакойнічкам*.

— Ён быў блізка з народам, — кажа Вера Мікалаеўна, — гэта пры ім адбудавалі Грушку. Памятае як бацюшка апранаўся ў спартыўныя апранахі і да цямна, разам з нанятымі работнікамі, завіхаўся пры будове. Як сам скручваў і ставіў іканастас, як крок па кроку ажыццяўляў кожны сантыметр новай царкоўкі.

— А ён быў адным з найбольш граматных бацюшкаў па епархіі, — адзначае мая субяседніца. — Сам прыдумаў праект царквы. Але ніколі не даваў людзям адчуць, што яны горшыя... Пры ім можна было ўсё сказаць, абмеркаваць кожную справу.

Памятае, як аднойчы сама прывяла бацюшку да парадку. У час, калі ўсе завіхаліся ля пабудовы ў Грушцы, пазваніла матушка з Берасця. Наракала на праблемы з дзяцьмі. І ён, як звычайны мужык, усхваляваўся. Накрычаў на яе...

— А я, як старэйшая жанчына, — прыгадвае з нейкім недаверам і чуллівасцю Вера Кірылюк, — адышла з ім набок і кажу, што так нельга! Каб пазваніў матушцы, каб пагаварыў з ёю як чалавек. Яна ж там адна з дзяцьмі, перажывае...

І бацюшка паслухаў яе. Пазваніў, папрасіў прабачэння ў матушкі...

Пасля, калі яго хавалі, матушка і яе маці дзякавалі Веры Кірылюк, цалавалі яе...

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960